

# Літаратура і мастацтва

**газета творчай інтэлігенцыі Беларусі**

12 КАСТРЫЧНІКА 2001г. № 41/4123 КОШТ 134 РУБ.









# Масты

Горад, які па праве лічыцца вялікім альбо мае прэтэнзіі на веліч, мусіць стаяць на вялікай рацэ альбо на беразе мора. Звычайна так яно і ёсць. Выключэнні рэдкія. Мінск якраз і ёсць такі "выключны" горад. Крыху дзіўна, што сталіцаю "краіны тысячы азёраў", мноства рэк і рачулак стаў па сутнасці бязводны ў параўнанні з іншымі горад. А вось рэгіянальныя цэнтры стаяць на прыстойных рэках — Полацк і Віцебск на Дзвіне, Гародня на Нёмане, Магілёў на Дняпры. Праўда, ранейшыя нашыя сталіцы Наваградак і Вільня не могуць пахваліцца "вялікаю вадою". Мабыць, гэта асаблівасць беларускай палітычнай геаграфіі і нацыянальнага менталітэту. Увесь край у нізіне, а сталіцы (Наваградак, Вільня, Мінск, ды і Полацк) на пагорках.

Свіслач — далёка не Рыа-Грандэ, але таксама рака. А дзе рака, там і масты. Самы цэнтральны і адпаведна самы вядомы мост Мінска — на праспекце Скарыны. У архітэктурным сэнсе гэта паменшаная і ўвогуле не вельмі ўдалая копія Масквярэцкага моста, што ў расійскай сталіцы непадалёк ад Крамля. А чыгунная аздоба нашага моста амаль дакладна паўтарае карункі Садовага моста праз Мойку, што ў Пецярбургу-Ленінградзе. Мост на вуліцы Багдановіча побач з Траецкім прадмесцем да часоў Максіма-кніжніка не мае ніякіх дачыненняў. Пабудаваны ў часе рэканструкцыі магістралі — транспартнага дублёра галоўнага праспекта горада. Адначасова з ягонай пабудоваю зніклі некалькі старых драўляных мастоў Багдановічавай пары.

Іншыя мінскія масты не занатаваныя ў спісе сталічных адметнасцяў. Але яны — частка вобраза ракі і горада. Свіслач ад моста да моста, як вялікая кніга з ненадта ўцямным тэкстам, падзеленым для зручнасці чытача на асобныя фрагменты-аповесці . Дзесьці рака штучна пашыраная і апранутая ў камень, дзесьці захавалася ў сваіх спрадвечных берагах. Недзе вакол яе шмат разоў змяніўся краявід, а дзесьці захаваўся некранутым. Кажуць, немагчыма двойчы ўвайсці ў адну і тую ж раку — але шлях праз мост заўжды адзін і той жа. Рака заўжды новая. Масты — нязменныя.

**П. В.**

*Фота М. ПРУПАСА*





# КОЛА ДЗЁН

***Пачатак новага тысячагоддзя жорстка выпрабоўвае чалавецтва. Мілагучнае і таемнае слова міленіум, якое застракацела на старонках друку колькі часу назад, аказалася злавесным і трагічным. Учора, 11 кастрычніка, споўнілася месяц з дня жахлівейшай за драйзераўскую амерыканскай трагедыі, калі пад руінамі пратараненых вежаў гандлёвага цэнтра ў Нью-Йорку былі пахаваны не толькі тысячы невінаватых ахвяр, але і ілюзія бяспекі і абароненасці самой чалавечай цывілізацыі. За чатыры дні да гэтай горкай даты ЗША пачалі акцыю помсты ў Афганістане. Што прынясе яна? Дапаможа знішчыць асяродак міжнароднага тэрарызму ці перарасце ў вялікую вайну, у якую будуць уцягнуты многія краіны свету? Гэта хвалюе ўсіх насельнікаў Зямлі. Заставацца безуважнымі сузіральнікамі не выпадае. Усе мы робімся ўдзельнікамі агульначалавечай драмы...***

***А ў Беларусі на гэтым тыдні прызначаны новы прэм'ер-міністр. Ім стаў, як і чакалася, чалавек з каманды Прэзідэнта Генадзь Навіцкі, які за апошнія гады паспеў пабыць на розных участках дзяржаўна-кіруючай вертыкалі. Прэм'ер-міністр — новы, а задачы і праблемы, якія давядзецца яму вырашаць, — старыя, усё тыя ж: рынку, інвестыцый, АПК, сацыяльнай абароненасці людзей... Тым не менш, — добрай дарогі, Генадзь Васільевіч! Поспехаў вам!***

### НЕВЫБРАННЕ ТЫДНЯ

У штаб-кватэры ААН адбыліся выбары пяці новых непастаянных членаў Савета Бяспекі на перыяд 2002—2003 гадоў. На адно месца ад групы ўсходнееўрапейскіх краін прэтэндавалі Беларусь і Балгарыя. У выніку тайнага галасавання гэтае месца заняла Балгарыя. Нас зноў, як і мінулы раз, не выбралі. Тайнае галасаванне ёсць тайнае галасаванне, аднак жа — крыўдна неяк...

### СЯМЁРКА ТЫДНЯ

У адпаведнасці з рашэннем Нацыянальнага банка, з 1 студзеня 2002 года ліцэнзіі на прыцягненне ва ўклады сродкаў фізічных асоб атрымаюць толькі тыя банкі, уласны капітал якіх — не меншы за 10 мільёнаў еўра. Такіх банкаў у Беларусі па стане на 1 верасня сёлетняга года — усяго 7. Нават пагаджаючыся з тым, што краіна наша не надта вялікая, усё ж такая колькасць больш-менш багатых банкаў — надзвычай мізэрная. А гэта значыць, што мы хоць і еўрапейцы, але пакуль што — бедныя-бедныя...

### РАШЭННЕ ТЫДНЯ

Нарэшце, здаецца, будзе вырашана праблема Курапатаў. У выніку перамоў прадстаўнікоў грамадскіх аб'яднанняў і ўлад, у якіх прымаў удзел і міністр транспарту і камунікацый Міхаіл Баравы, прадугледжана, што археолагі неадкладна правядуць дадатковыя даследаванні на той частцы тэрыторыі, па якой павінен прайсці новы ўчастак кальцавой дарогі. Калі ніякіх захаванняў не будзе выяўлена, дык будаўніцтва дарогі працягнецца. У дадатак міністр паведаміў, што дарожнікі плануюць зрабіць пры ўездзе ў Курапаты ўпарадкаваную аўтастаянку, падземныя пераходы, а ў месцах, дзе дарога будзе прымыкаць да мяркуемага месцазнаходжання магіл, — спецыяльныя падпорныя сценкі. "Гэтае месца трэба прывесці ў належны парадак", — заявіў міністр. Даўно б гэтак!

### ДЗЕЦІ ТЫДНЯ

Летась у Беларусі паявілася на свет 17442 пазашлюбныя дзіцяці. Гэта амаль на тысячу больш, чым летась. Лічбы ўжо самі па сабе горкія. А яшчэ гарчэйшыя яны робяцца, калі дадаць, што 690 дзетак нарадзілі... дзеці, гэта значыць, непаўналетнія мамы. Больш за тое, 86 дзетак паявіліся на свет у мам, якім не споўнілася і пятнаццаці гадоў, а 282 — у 16-гадовых мацярок. Балюча ўсё гэта каментаваць. Адно застаецца: цяжка ўздыхнуць...

### СЕМІНАРЫЯ ТЫДНЯ

Па ініцыятыве кіраўніка каталіцкай царквы ў Беларусі Казіміра Свёнтака ў Пінску адкрыта вышэйшая духоўная семінарыя. Святочнае набажэнства з гэтай нагоды ў Пінскім кафедральным касцёле правёў сам кардынал. Дарэчы, да вайны ў Пінску была каталіцкая духоўная семінарыя, зачыненая пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР. Яе ў свой час скончыў і сам Казімір Свёнтак. А цяпер ён стаў рэктарам наноў адкрытай духоўнай навучальнай установы. Адкрыццё семінарыі паслужыць добрай справе — забеспячэнню каталіцкіх парафіяў Беларусі святарамі "сваёй гадоўлі", а не запрошанымі здалёк і зблізку чужаземцамі.

### ВЯРТАННЕ ТЫДНЯ

У Мінск вярнуўся славуты колісь "Аэрафлот". Ён, вядома, і дагэтуль прысутнічаў, паслугамі гэтай адзінай за савецкім часам аэрафірмы жыхары Беларусі карысталіся і раней, але цяпер у Мінску з'явілася яго афіцыйнае прадстаўніцтва. Гэта пазначыла новы ўзровень супрацоўніцтва "Аэрафлота" і "Белавіі". Асноўная мэта гэтага супрацоўніцтва — прадастаўленне новых паслуг пасажырам з выкарыстаннем магчымасцяў "Аэрафлота" для палётаў з Мінска па Расіі і ў трэція краіны з наладжваннем зручных і непрацяглых стыковак у Маскве. Парадуемся за саміх сябе?

### АЦЭТЫЛЕН ТЫДНЯ

Астанкінская тэлевежа пасля пажару ўсё яшчэ "латаецца". У прыватнасці, на ёй выконваецца вялікі аб'ём зварачных работ. Газазваршчыкам патрэбны ацэтылен. Гэтую сыравіну для газавай зваркі масквічы знайшлі ў вёсцы Тэльмы пад Брэстам. Умельцы тутэйшай фірмы "Аўтаген" вырабляюць ці не лепшы ў Еўропе ацэтылен. Прынамсі, астанкінскія газазваршчыкі на вышыні высока ацанілі якасць беларускай сыравіны, вестка аб чым дакацілася, вядома ж, і да пастаўшчыкоў. Як кажуць, дробязь, а — прыемна чуць.

### "КАМЕРТОН" ТЫДНЯ

Буйнейшы ў Беларусі вытворца электронных гадзіннікаў Пінскі завод "Камертон" наладзіў выпуск прадукцыі новага пакалення. Новыя гадзіннікі створаны на прынцыпова новай тэхналагічнай базе, маюць палепшаныя спажывецкія характарыстыкі і павышаную функцыянальную магчымасць. Гэта, у прыватнасці, аўтаматычны ўлік высакоснага года, павялічаны індыкатар з двухрадковым адлюстраваннем інфармацыі, аўтаматычны пераход на летні і зімовы час і інш. Аналагаў гэтых пінскіх гадзіннікаў няма нідзе ў краінах СНД. Карацей кажучы, малайцы пінчукі!

# Народ застаецца з паэтам

Напрыканцы верасня на Беларусі адбылася падзея, якая сталася б прыкметнай у культурным жыцці любой краіны, — народны паэт адзначаў свой юбілей. Нілу Сымонавічу Гілевічу — паэту, навукоўцу, фалькларысту, грамадскаму дзеячу — 30 верасня гэтага года споўнілася 70 гадоў.



Але святкаванне адбылося не ў адной з вялікіх тэатральных ці канцэртных залаў, якіх у нашай сталіцы хоць не багата, але ёсць. Не асвятліла ўрачыстасць Беларускае тэлебачанне і радыё. Дарэмна было б шукаць згадкі пра юбілей народнага паэта ў інфармацыйных перадачах БТ.

Затое не прамаўчаў беларускі народ, тысячы чытачоў, прыхільнікаў творчасці паэта. Вечарыну юбіляру ўзялося арганізоўваць Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, ініцыятарам стварэння якога быў Ніл Гілевіч, ягоны ж першы старшыня. Памяшканне для імпрэзы прадаставіў Чырвоны касцёл на плошчы Незалежнасці, настаяцель якога, ксёндз Уладзіслаў Завальнюк, з'яўляецца сябрам рады ТБМ.

Як і трэба было чакаць, невялікая тэатральная зала касцёла задоўга да пачатку вечарыны была 4 кастрычніка перапоўненая, а жадаючыя патрапіць на імпрэзу ішлі і ішлі. Айцец Уладзіслаў прапанаваў нечаканае выйсце — перайсці ў касцельную залу, дзе адпраўляюцца набажэнствы. Менавіта там і адбылася ўрачыстасць. Слова паэзіі, якая абуджае дух народа, падымалася пад купал храма. Але і гэтай — сапраўды вялікай — залы аказалася недастаткова, каб змясціць усіх, хто хацеў павіншаваць свайго паэта. Вечарыну вяла намеснік старшыні ТБМ Людміла Дзіцэвіч. Паток віншаванняў здаваўся бясконцым. Беларускі пясняр прымаў віншаванні ад настаяцеля касцёла айца Уладзіслава Завальнюка, старшыні Таварыства беларускай мовы Алега Трусава, ад раённых суполак ТБМ, ад акадэміка Радзіма Гарэцкага, ад Саюза беларускіх пісьменнікаў, які прадстаўлялі намеснікі старшыні Навум Гальпяровіч і Віктар Праўдзін. Прагучалі цёплыя словы на адрас вінbackwards віноўніка ўрачыстасці з вуснаў галоўнага рэдактара часопіса "Полымя" Сяргея Законнікава, галоўнага рэдактара часопіса "Маладосць" Генрыха Далідовіча, галоўнага рэдактара газеты "Літаратура і мастацтва" Алеся Пісьмянкова, мастацкага кіраўніка Беларускага паэтычнага тэатра аднаго акцёра "Зніч" Галіны Дзягілевай. Віншавалі юбіляра мастакі Мікола Купава і Алесь Марачкін, якія прадстаўлялі суполку "Пагоня". Усіх здзівіла прамова прадстаўніка пасольства Злучаных Штатаў Амерыкі ў Беларусі, прамоўленая па-беларуску. Нацыянальная бібліятэка, батанічны сад, Федэрацыя прафсаюзаў — цяжка пералічыць усе арганізацыі, што выказалі словы ўдзячнасці і захаплення паэту. Прагучалі спевы і музыка ў выкананні хору пры Чырвоным касцёле, гурта "Ліцвіны", паэта і барда Эдуарда Акуліна.

З-за такога наплыву віншавальнікаў Нілу Сымонавічу давялося скараціць уласнае выступленне, і, нягледзячы на пратэсты публікі, якая склалася ўражанне, магла б слухаць яго паэзію да раніцы, прачытаў толькі чатыры вершы.

Імпрэза ў Чырвоным касцёле засведчыла, што беларускі народ, як і кожны народ свету, мае свайго нацыянальнага паэта, якога любіць і шануе. І для гэтага не патрэбныя ні падказкі літаратурных крытыкаў, ні "раскручванне" праз "мас-медыя", ні распараджэнні "зверху".

**Н. К.**

*Фота А. КАЛЯДЫ*

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Адбылося пасяджэнне секцыі мастацкага перакладу і літаратурных узаемасувязей, дзе разглядаліся і распрацоўваліся планы дзейнасці секцыі на наступны год. Як падкрэсліў намеснік старшыні СБП Навум Гальпяровіч, секцыя робіць вялікую справу, але трэба далей актывізаваць і пашыраць пераклад твораў беларускіх аўтараў на іншыя мовы, а таксама пераклад на беларускую мову пісьменнікаў замежжа. Асаблівую ўвагу варта надаць перакладам нашых твораў на рускую мову, бо менавіта праз рускую мову замежны чытач можа іншы раз пазнаёміцца з набыткамі беларускай літаратуры, з новымі імёнамі. Пажадана часцей праводзіць "круглыя сталы", семінары перакладчыкаў, сустрэчы з мэтай захавання і ўмацавання сувязей паміж літаратурамі розных краін, аднаўлення згубленых кантактаў. Трывалыя ўзаемастасункі паміж літаратурамі — адна з галоўных задач Саюза пісьменнікаў. Прафесар Іван Чарота адзначыў, што адно з самых галоўных пытанняў сёння — гэта пытанне крытыкі перакладу, і тут неабходна працаваць у цесным кантакце з секцыяй крытыкі і перыядычнымі выданнямі. Мы паступова набываем кваліфікаваных крытыкаў і перакладчыкаў, але яны, на жаль, не заўсёды трапляюць у арбіту нашага супрацоўніцтва. Секцыя вырашыла арганізацыйнае пытанне: на пасаду старшыні секцыі мастацкага перакладу большасцю галасоў абраны Іван Чарота.

●

Юбілею народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча была прысвечана літаратурная сустрэча, што адбылася ў ПТВ № 133 г. Мінска. Пра жыццё і творчасць слаўтага майстра распавялі загадчыца навукова-метадычнага аддзела Рэспубліканскай навукова-педагагічнай бібліятэкі Людміла Несцяровіч, метадыст Таццяна Сяргеева, літкансультант СБП Ірына Качаткова і іншыя. Прагучалі песні на словы Н. Гілевіча ў выкананні самадзейных артыстаў і навучэнцаў ПТВ.

**М. Р.**



# Выканаўца... "на галаву вышэйшы"

Госцем сталічнага Дома журналіста быў у мінулую пятніцу вядомы і папулярны чалавек — Эдуард Зарыцкі. Рознабаковы творца, ён мае шырокае прызнанне як кампазітар-песеннік, а сярод знаёмых ды сяброў трымае славу былога "кавээншчыка", дабрадушнага і пры гэтым вострага на язык. Ён аказаўся і дасціпным вядучым свайго невялікага музычнага выступлення, і сам сабе канцэртмайстрам.

Ведаючы, што ў канферэнц-зале Дома журналіста, апроч "залатых пёраў" ды "шпіёнскіх" дыктафонаў, ніякіх інструментаў не будзе, Эдуард Зарыцкі прыхапіў з сабой акардэон. Не фартэпіяна, канечне, ды ўсё ж — клавіятура. Пэўна, падчас шматлікіх творчых вандровак ён пасябраваў і з гэтым, нязвыклым для яго, інструментам. І пад уласны акампанемент нагадаў шэраг песень з рэпертуару Яраслава Еўдакімава, Надзеі Мікуліч, Таццяны Арлоўскай, Якава Навуменкі: "Так прыйшла да нас Перамога", "Я вярнуся", "Лёс — як віно на палыне", "Начныя кастры", "Лісток календара", "Развітальная гастроля", "Не хадзі, казача", "Твае вочы — азёры"...

Лішне казаць, што Эдуард Зарыцкі ўмее наладзіць творчы кантакт, і таму плённа супрацоўнічаў і супрацоўнічае з многімі нашымі паэтамі. Нямала песень напісаў і ў садружнасці з Рыгорам Сакалоўскім — дарэчы, першым намеснікам старшыні Беларускага саюза журналістаў, старшынёй Мінскай журналісцкай арганізацыі. Адна з новых "Беларуская дарога" — прагучала ў той вечар як сапраўдная прэм'ера: поруч былі кампазітар-выканаўца і яго сааўтар Рыгор Сакалоўскі.

Між іншым, пра выканаўцаў. Адну са свежых песень Эдуарда Зарыцкага — "Чорныя вейкі" — запісаў Філіп Кіркораў. Пагадзіцеся, у нечым сенсацыйны факт. А што ж кампазітар? З вышыні свайго досыць выбітнага росту агледзеўшы аўдыторыю сарамяжліва-вясёлым позіркам, ён заўважыў: "У мяне ўпершыню быў выканаўца на галаву вышэйшы..."

**С. ВЕТКА**

ЮБІЛЕІ

# Дзесяць год здабыткаў і падзей

***27 верасня 2001 года Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны ўрачыста адзначыў свой 10-гадовы юбілей.***

На вечарыне, якая ладзілася ў Доме дружбы, прысутнічала шмат гасцей, сярод якіх былі намеснік міністра адукацыі Алег Слука, намеснік міністра культуры Валеры Гедройц, паслы і прадстаўнікі пасольстваў з 10 краін свету, прадстаўнікі амаль што ўсіх гуманітарных інстытутаў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, паэты, мастакі, выкладчыкі ВНУ, прадстаўнікі Каталіцкага касцёла Праваслаўнай царквы, іншых канфесій і рэлігій, кіраўнікі дзяржаўных устаноў і грамадскіх арганізацый, з якімі супрацоўнічае Цэнтр. Такую колькасць людзей зала ледзь змагла змясціць. Сцэну ўпрыгожваў малюнак мастака Уладзіміра Стальмашонка. На ім быў намаляваны малады вясёлы Скарына і было напісана "Віншую, сынку, з тваім 10-годдзем".

Урачыстасць пачалася з высокай духоўнай ноты — нацыянальна-рэлігійнага гімна "Магутны Божа".

Шмат добрых і цёплых слоў было сказана ў адрас супрацоўнікаў Цэнтра. Але ўсе яны не змаглі цалкам адлюстраваць важнасці для нашай краіны той працы, якую праводзіць Цэнтр. Жадаючых выступіць было столькі, што вечарына зацягнулася і дырэктар Любоў Уладыкоўская-Канаплянік вымушана была папрасіць тых, хто не паспеў сказаць свайго прывітальнага слова, выказацца пазней.

Пасля афіцыйнай часткі перад гасцямі выступіў фальклорны ансамбль "Тутэйшая шляхта", які сваімі прыгожымі спевамі надаў вечарыне яшчэ больш святочную атмасферу, якая была надзвычай узнёслай, вечарына прайшла амаль па-сямейнаму, так што нават і не адчувалася, што на ёй прысутнічае вялікая колькасць людзей — усе былі аднадумныя ў сваіх выказваннях.

Будзем спадзявацца, што Скарынаўскі цэнтр у далейшай дзейнасці не знізіць таго высокага ўзроўню навуковай працы і асветніцкай дзейнасці, а будзе выходзіць у новыя сферы працы ў галіне беларусазнаўства, і дзяржава ў рэшце рэшт прызнае за ім права быць навуковым інстытутам.

**Генек ДАМБРОЎСКІ**

ІМПРЭЗЫ

# Кастрычнік пачынаецца з музыкі

Па календары з году ў год вандруе напамін: "1 кастрычніка — Міжнародны дзень музыкі". Наша сталічная філармонія па-заўсёднаму адзначыла гэтае свята сімфанічным канцэртам. А ў залах Вялікага тэатра, што на Траецкай гары ў Мінску, і Дзяржаўнага музычнага з нагоды панядзелка, традыцыйна выхаднога дня, сёлета 1 кастрычніка было ціха. Зрэшты, цішыня ў тэатры — з'ява ўмоўная. За кулісамі Дзяржаўнага музычнага гучаў апафеоз рамонтных работ, а ў дырэктарскім кабінеце ішла гамонка з журналістамі напярэдадні адкрыцця новага сезона. Ну, а ў Нацыянальным акадэмічным тэатры балета Беларусі зноў набыў актуальнасць лейтматыў дарогі.

Так, беларуская балетная трупа пад кіраўніцтвам народнага артыста СССР Валянціна Елізар'ева адпраўце кастрычнік у Галандыі. Гастролі калектыву адкрыліся там спектаклем "Рамэо і Джульета" на музыку С.Пракоф'ева — асноўным творам у вандроўным рэпертуары. На лістапад плануюцца сустрэчы з бельгійскай публікай. Гэта значыць, што мінскім паклоннікам Тэрпсіхоры давядзецца чакаць вяртання сваёй улюбёнай музы да пачатку зімы.

Нацыянальны тэатр оперы Беларусі, які дома — да наступнага лета, прапануе ўвазе публікі разнастайную афішу. На ёй пазначаны, прынамсі, спектаклі з удзелам гасцей: салістка з Масквы І.Камароўская выступіла ў "Чарадзейнай флейце" 4 кастрычніка, 18-га на сцэне — украінскі спявак І.Панамарэнка (спектакль "Набука").

**Я.КАРЛІМА**

ВЫСТАВЫ

# Радзіма была раем

Так ужо заведзена ў жыцці, што спазнаеш чалавека па-сапраўднаму толькі пасля ягонай смерці. Асабліва, калі гэта смерць заўчасная. Галіна Русак, амерыканка і беларуска, мастачка, правадзейны прафесар і дырэктарка вялікай мастацкай бібліятэкі Ратгерскага універсітэта памерла год таму нечакана ад раку. Згараўшы за лічаныя дні, яна пакінула пасля сябе дзвюх дачок, якія вельмі ашчадна адносяцца да спадчыны маці і мяркуюць выдаць яе альбом, шмат працаў, частка з якіх ёсць і на яе радзіме — Беларусі, і добрую памяць людзей, якім пашчасціла з ёю пазнаёміцца.

А згадваецца ўсё гэта з нагоды выставы і канферэнцыі, якую наладзілі ў Заслаўскім музеі-запаведніку, каб ушанаваць памяць Галіны Русак. Пра мастачку распавядалі мастацтвазнаўцы Валянціна Трыгубовіч, Тацяна Гаранская, Віктар Шматаў, мастакі Віктар Маркавец, Юрый Піскун, Валянціна Бартлава. Дарэчы, В.Маркавец напісаў партрэт мастачкі, спецыяльна для гэтай выставы падрыхтавала і невялікі габелен Г.Бартлава. А маленькая зала змясціла творы Галіны Русак, прадастаўленыя Заслаўскаму музею Нацыянальным мастацкім музеем, дзе яны захоўваюцца з 1992 г., калі былі падораны самой мастачкай пасля сваёй першай выставы ў Мінску, на радзіме, якую яна заўжды ўспрымала як рай. "Радзіма-Рай", так арганізатары назвалі і яе першую выставу пасля смерці.

Галіна нарадзілася ў Беларусі, на Навагрудчыне. У 1949 г. прыехала ў Амерыку. Там яна вучылася, напаткала сямейнае шчасце з Васілём Русаком, там жывуць яе дзеці і ўнукі. Зрабілася бакалаўрам, а пасля магістрам гуманітарных навук, прафесарам, пабудавала універсітэцкую мастацкую бібліятэку, дзе сабрала вялікае мноства беларускіх выданняў. Там яна напісала свае творы. Сорак год яна марыла вярнуцца ў рай — дзе



спрадвечнае сонца, квітнеюць валошкі і мальвы. А здолела — толькі праз сорак год амерыканскага жыцця. І тады кветкі "раю" расквітнелі на яе творах сярод беларускага арнаменту.

У творчасці яна ішла хуткімі крокамі. Яе працы выстаўляліся ў прэстыжнай нью-йоркскай галерэі "Соха". Пачала з традыцыйных пейзажаў, але ўжо ў 70-х яе творы набылі індывідуальны стыль. Яны зрабіліся вольнымі, трапяткімі, з іх ірвалася непрыхаваная эмацыянальнасць і бязмежная любоў. Але чым далей, тым больш Галіна ( у 80-х) схіляецца да выразнасці геаметрычных формаў, з якіх складаецца любы традыцыйны ўзор. Праз лакальныя колеравыя плямы, дакладна абмежаваныя лініямі, яна імкнецца знайсці выразны сімвал прыроды. Не проста пейзажу, а міфалагічнага падтэксту, такога блізкага ёй як жанчыне . Тут Галіне Русак моцна дапамагло знаёмства з мастацтвам паўночна-амерыканскіх індзейцаў. Здаецца, душа мастачкі вырвалася на волю. Чароўныя кветкі, сярод якіх нязменна згадваецца васілёк ці рамонак, чырвонае сонца, гнуткая лінія вады... Стыль мастачкі немагчыма паўтарыць ці растлумачыць. Мала каму ўдаецца так нязмушана-шчыра сумясціць стытычныя колеравыя плямы ( а Галіна не баялася і чорнага колеру) з вірлівым жыццём ліній, агульнай пластыкай твора. У яе работах лёгка прачытваецца код беларускасці, сімволіка язычніцтва, знакі традыцыйнага арнаменту. Здаецца, яе творы нарадзіла містыка самой купальскай начы. Ну, а відочны дэкаратывізм — гэта адзнака сучаснага амерыканскага мастацтва, уздзеянне якога таксама не абмінула Г.Русак. Чым далей, тым больш Галіна звяртаецца да арнаментыкі беларускіх тканых рэчаў, да традыцый слуцкіх паясоў, дзе майстрыхі паверх геаметрычнага традыцыйнага ўзору ткалі выявы птушак і кветак. На апошніх па часе карцінах лётаюць буслы, растуць шыпшына і канюшына, васількі, званочкі, ружы, мальвы, што ўплецены ў арнаментыкі. "Тры найважнейшыя фактары ўплываюць на змест майго мастацтва — прырода, жанчына як яе інтэрпрэтатар і рукатворны сімвал", — пісала Галіна Русак.

Усё ж ёй пашчасціла радзіму наведаць. Невялікага росту, танклявая, але моцнага характару, яна заўжды шчыра і непрыхавана перажывала за Беларусь. Добра гаварыла на беларускай мове, карціны падпісвала "беларус", удзельнічала ў з'ездах беларусаў свету, збірала беларускія выданні ў амерыканскую бібліятэку, але не магла спакойна глядзець на звады сярод лідэраў беларускай апазіцыі. Бо на першае месца ставіла справу, адзіную для ўсіх. І сама давала прыклад такой справы.

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

## У рэдакцыю газеты "Літаратура і мастацтва"

Паважаны спадар рэдактар!

Дазвольце праз вашу газету выказаць шчырую падзяку ўсім, хто павіншаваў мяне з 70-годдзем.

**Ніл ГІЛЕВІЧ**

АБСЯГІ

*ГРОДЗЕНШЧЫНА...*

## У кожным вырабе — душа

"Вечна зялёнае дрэва рамёстваў" — так называецца выстава самабытных работ народных творцаў, якая працуе ў Лідскім гісторыка-мастацкім музеі. У экспазіцыі — рукатворныя цуды з гліны, лазы і саломкі. Захапленне наведвальнікаў выклікаюць керамічныя вырабы майстроў з вёскі Малейкаўшчына і рабочага пасёлка Дзітва. Добрым мастацкім густам вызначаюцца рэчы з саломкі, прадстаўленыя сябрамі Беларускага саюза майстроў народнай творчасці Святланай Паплаўскай, Тацянай Ларыёнавай, Наталляй Емяльянчык. А Мікалай Тарас здзіўляе рознага кшталту кошыкамі, сплеценымі з карэння.

## Ушанавала Селішча паэта

Карэліцкая вёска Селішча, у якой 170 гадоў таму нарадзіўся Вінцэсь Каратынскі, урачыста адзначыла юбілей слыннага земляка. Ля помніка-каменя, на якім уладкавана мемарыяльная дошка, прайшла літаратурна-музычная вечарына. Гучалі вершы беларускага і польскага паэта, шмат было сказана ўзнёслых слоў пра яго жыццёвы і творчы шлях.

## Ліда на старых малюнках

Якім быў горад Ліда ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя? Уявіць гэта можна, гартаючы кнігу "Ліда на старых малюнках, паштоўках, фотаздымках". Пры дапамозе грамадскасці падрыхтавалі выданне мясцовыя краязнаўцы Леанід Лаўрэш і Уладзімір Круцікаў. У кнізе выкарыстаны творы Язэпа Драздовіча, Напалеона Орды, Міхала Куляша. Варта шкадавання невысокая якасць паліграфічнага выканання згаданай кнігі.

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ**

*ГОМЕЛЬШЧЫНА...*

## Слова пра Мазыр

Многія знаныя паэты прысвяцілі свае радкі Мазыру, маляўнічаму гораду на Прыпяці. Тутэйшы літаратар В. Андрыеўскі з дапамогай культработнікаў сабраў лепшыя вершы ў зборнік "Ты, Мазыр, — мой Парнас". У кніжку ўвайшлі творы М. Чарота, П. Броўкі, П. Панчанкі, Р. Барадуліна, А. Зарэцкага, У. Дубоўкі, В. Віткі, Р. Няхая, У. Верамейчыка. Выданне, аформленае мастаком П. Захаравым, стала добрым падарункам аматарам паэзіі, настаўнікам і студэнтам.

## Лялькі любяць класіку

Абласны тэатр лялек прымаў удзел у міжнародным тэатральным фестывалі, што праходзіў у Брэсце. За спектакль "Карлік Нос" гомельскі калектыў атрымаў дыплом "За творчы пошук у засваенні класічнай драматургіі", а актрыса Тамара Гарачова была ўзнагароджана прызам глядацкіх сімпатый.

Пасля двухтыднёвых гастроляў у Мінску тэатр адкрыў новы сезон у Гомельскім цэнтры "Юнацтва".

## Пасяджэнне краязнаўцаў

Сябры гомельскага краязнаўчага таварыства — супрацоўнікі абласнога музея, навукоўцы, выкладчыкі — даўно і плённа займаюцца вывучэннем гісторыі роднага горада. Апошняе пасяджэнне таварыства было прысвечана гарадской геральдыцы.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*БРЭСТЧЫНА...*

## Падсумавалі зробленае

Шостага кастрычніка літаратары Брэстчыны правялі справаздачна-выбарны сход. Сакратар абласнога аддзялення СП Алесь Каско зазначыў, што апошнія чатыры гады сталіся досыць плённымі і ў творчасці, і ў прапагандзе беларускага мастацкага слова. Пабачылі свет тры дзесяткі новых кніг (у дзяржаўных выдавецтвах і мясцовых). У тым ліку сямю выданнямі папоўнілася серыя "Берасцейскае вогнішча". Літаратары — частыя госці ў школах, вучэльнях, ВНУ, бібліятэках, на прадпрыемствах. Паказальна, што ў гэты дзень асобныя ўдзельнікі сходу паспелі выступіць перад студэнтамі і выкладчыкамі Брэсцкага дзяржуніверсітэта... Гаворка на сходзе ішла і пра мерапрыемствы, прысвечаныя памяці такіх выдатных майстроў слова, як Міхась Рудкоўскі, Васіль Праскураў, пра штогадовыя Калеснікаўскія чытанні. Усімі прысутнымі была горача падтрымана ідэя звярнуцца ў аблвыканкам дзеля ўстанаўлення абласных літаратурных прэмій у галіне паэзіі, прозы і публіцыстыкі.

На жаль, справаздачны перыяд пазначаны не толькі здабыткамі, але і стратамі. Літаратары суполкі назаўсёды развіталіся са сваімі сябрамі Алесем Бібіцкім і Анатолем Станкевічам. І сябры літаратурнага аб'яднання і яго актыўныя ўдзельнікі ўшанавалі памяць Івана Сычыка і Кастуся Турко.

20 год таму ў аддзяленне ўваходзіла 7 чалавек, зараз — два дзесяткі творцаў. Але суполка не толькі расце, але і маладзее. Сход рэкамендаваў для ўступлення ў саюз паэтку з Бярозы Валянціну Осіпаву і празаіка з Брэста, студэнта дзяржуніверсітэта Сяргея Грышкевіча.

У сваіх выступленнях літаратары Ніна Мацяш, Зінаіда Дудзюк, Андрэй Мазько не абышліся і без крытычных заўваг. Яны гаварылі пра недахопы ў прапагандзе творчасці менавіта мясцовых літаратараў, пра адсутнасць свайго грашовага рахунку. Але ў цэлым работа аддзялення і яго сакратара ацэнена станоўча. Сакратарам арганізацыі зноў абраны Алесь Каско.

**Анатоль КРЭЙДЗІЧ**

*МАГІЛЁЎШЧЫНА...*

## Дзікунства

Інакш і не назавеш учынкі невядомых вандалаў. У Крычаве ў час святкавання дня горада хтосьці спаліў дуб, які меў амаль 300-гадовы ўзрост і з'яўляўся помнікам мясцовага значэння.

А з помніка Пятру Мсціслаўцу злодзеі збілі і сцягнулі літары, з якіх складаліся імя і прозвішча друкара. Супрацоўнікі Мсціслаўскага РАУС знайшлі толькі частку скрадзенага.

## На палотнах — Мсціслаў

У абласным мастацкім музеі імя П. Масленнікава працуе выстава ўдзельнікаў шостага міжнароднага пленэру жывапісцаў, які праходзіў у Мсціславе. На палотнах — краявіды старога горада.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

*ВІЦЕБШЧЫНА...*

## Сімвал горада ў стылі барока

Галоўны сённяшні сімвал старога Віцебска — ратуша на працягу чатырох стагоддзяў неаднойчы перабудоўвалася. Зараз архітэктары вырашылі вярнуць ратушы рысы першапачатковага вобліку позняга барока. Кіруе праектам галоўны архітэктар горада Барыс Лядэнка. А побач з ратушай пачалося аднаўленне Уваскрасенскай царквы, таксама помніка архітэктуры позняга барока.

**Святлана ГУК**

## "Вечар" у Маладзечне



З поспехам прайшло напрыканцы верасня адкрыццё новага сезона ў Мінскім абласным драматычным тэатры ў Маладзечне. Прэм'ерны спектакль "Вечар" два дні ішоў пры поўным аншлагу і быў надзвычай цёпла прыняты гледачом. Несумненная заслуга ў гэтым і аўтара, вядомага драматурга Аляксея Дударава, і рэжысёра, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі, заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь Валерыя Мазынскага, і, зразумела, артыстаў Алены Рахмангулавай, Віктара Багушэвіча і Алега Чэчанева, якія, выконваючы ўзроставыя ролі, надзіва хораша трымаліся на сцэне і вельмі шчыра, без ніякага фальшу, расказалі шчымлівую гісторыю пра няпросты лёс пажылых людзей, што на схіле сваёй жыццёвай дарогі знаходзяць у сабе сілы верыць і спадзявацца.

А таксама кахаць...

Віктар МІКАЛАЕЎ

На здымку: сцэна са спектакля "Вечар"

Фота А. КАСКІНА

## Карцінная галерэя — у бальніцы

Свята для людзей паважнага веку, што знайшлі свой прытулак у Старадзятлавіцкай бальніцы Гомельскага раёна (там створана медыка-сацыяльнае аддзяленне), зрабілі майстры мастацтва і літаратуры. Чатыры гады запар па ініцыятыве галоўнага ўрача А.Ефімовіча 1 кастрычніка, у міжнародны дзень пажылых людзей, прыязджаюць яны сюды, каб сагрэць гэтых хворых і адзінокіх дзядуль і бабуль сваёй цеплынёй і ўвагай. Адкрываючы нядаўнюю сустрэчу, слушна заўважыў галоўурач: "Мы не адзінокія..." Так, мастакоў, пісьменнікаў, артыстаў сабралася тут шмат.

Загадчыца аддзела абслугоўвання цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя Герцэна Наталля Малашэнка і дырэктар абласной галерэі мастацтваў Алег Ананьеў, што выступілі ў ролі вядучых, прадставілі гасцей — мастака Станіслава Дзьяканава, з выставай твораў якога маглі пазнаёміцца ўсе жадаючыя, а таксама паслухаць рамансы ў яго ным выкананні, акцёраў Гомельскага драмтэатра Аляксея Бычкова і Наталлю Задорыну, пісьменніка Васіля Ткачова, салістку абласной філармоніі Тамару Сапегіну. Пра справы абласной арганізацыі Беларускага саюза мастакоў гаварыў яго старшыня Анатоль Отчык. Ён паведаміў прыемную навіну: неўзабаве ў бальніцы будзе адкрыта карцінная галерэя, а пакуль для гэтага зроблены першы крок. Свае работы падаравалі бальніцы гомельскія мастакі Таццяна Отчык, Святлана Курашова, Пётр, Мікола ды Яўгенія Феі, Ігар Сямека, Дзмітры Папоў і іншыя. Адну са сваіх работ падараваў бальніцы і С.Дзьяканаў. Самадзейны мастак Аляксандр Гурык спецыяльна для будучай галерэі зрабіў некалькі цікавых акварэляў.

На свяце выступілі загадчык аддзела сацыяльнай абароны Гомельскага райвыканкама А.Карчэўскі, старшыня савета ветэранаў раёна, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, палкоўнік запасу М.Рычкоў, намеснік галоўнага ўрача раённага тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання Л.Ліцвіненка, супрацоўніца ўпраўлення сацыяльнай абароны насельніцтва аблвыканкама Т.Сайкова, намеснік старшыні раённага таварыства "Чырвоны крыж" А.Клімава

Васіль БАРХАНАЎ

ПОШТА

# Адкрыты ліст Нілу Гілевічу

***Паважаная рэдакцыя! Вельмі прашу, па магчымасці, надрукаваць адкрыты ліст Нілу Гілевічу, так як іншай магчымасці звярнуцца да паважанага паэта я не маю. Прашу прабачэння за клопаты.***

**З удзячнасцю Зоя Шклянік.**

Напрыканцы лета, гартаючы старонкі друку, спатыкнулася аб дату, што ўсхвалявала сэрца — Нілу Гілевічу 30 верасня споўніцца 70 год. Здаецца, не сустрэнеш сёння беларуса, які б не адчуваў духоўнай повязі з Нілам Сымонавічам. Таму ўзнікла вострае жаданне выказаць словы павагі, што даўно нашу ў сэрцы, выдатнаму паэту і мужнаму чалавеку.

Ды што такое восень для вясковага настаўніка? Пытанне рытарычнае...

Калі ў школе пачалі рыхтавацца да юбілею, сэрца зашчымела зноў — не паспела сказаць таго, што хацела і лічыла неабходным.

А пасля ўспомніла, як у сярэдзіне траўня, неўзабаве пасля майго дня нараджэння, патэлефанавала мая былая вучаніца, якая ў гэтым годзе атрымае дыплом псіхолага, і сказала мноства прыемных і цёплых слоў, большай паловы з якіх мая больш чым сціплая персона ніяк не заслугоўвае. Аднак на душы доўгі час было хораша. Успомніўшы, сказала сабе: "Трымай, настаўніца, урок! Лепей позна, чым ніколі."Шаноўны Ніл Сымонавіч!

Я належу да таго пакалення філфакаўцаў, што мела гонар слухаць вашы лекцыі па беларускім фальклоры ў сярэдзіне 70-х. Толькі на нашым курсе было 125 чалавек, а былі яшчэ і старэйшыя, і малодшыя. Многіх ведала, з некаторымі падтрымліваю сувязі і сёння. Адзін з незлічоных філфакаўскіх хлопцаў стаў маім мужам, з ім дзелім цяжар і радасць беларушчыны. Можа, гэта і нясціпла, але вельмі б хацелася сказаць не толькі ад сябе, але ад імя ўсіх філфакаўцаў 70-х, ва ўсякім разе, я прашу ў іх гэтага права — сказаць, чым Вы былі для нас і што Вы для нас ёсць сёння.

Божа, якімі маладымі і захопленымі сабою мы былі! Колькі нястрыманай радасці было ў нашым гомане, і якой духоўнай моцай трэба было валодаць, каб прыкаваць нашы погляды да сябе! Вам, Ніл Сымонавіч, гэта ўдалося. З якім захапленнем мы праніклісь стыхіяй роднай песні! Якім бліскучым урокам народнай маралі гучалі для нас словы таго юнака, што клікаў на спатканне, абяцаючы:

*Я твае ножанькі не замарожу,*
*Я твае ножанькі ў шапачку ўложу.*

Якім адкрыццём для мяне загучала звыклая бабуліна песня (мая бабуля была надзвычай таленавітым чалавекам):

*Ой, калядачкі, ужо у ліпнічку*
*Ой, рано*
*Ой, рано — рано ўжо ў ліпнічку*

Дык гэта ж бабуліна песня! Вось ён, наш ліпнічак, вось бабульчына нястрыманая радасць — каляды прыйшлі. Яна спявала тое, што клалася на душу! Не было б Вашых урокаў, магчыма, ніколі б мне гэтага не зразумець, як не зразумець вартасці роднага слова, не адчуць цеснай повязі са сваім народам.

Менавіта такім, гарачым прапагандыстам і выдатным знаўцам народнай творчасці, Вы жывяце ў нашай памяці. Дзякуючы Вашым захопленым і разумным словам мы здолелі паглядзець на сябе па-іншаму, больш таго, мы скіравалі погляд у сябе. Вы сталі для нас узорам служэння Бацькаўшчыне, Вы прымусілі нас адкрыць Амерыку ў звыклым і будзённым, Вы навучылі нас цаніць і разумець сваю спадчыну.

Сёння большасць нас ідзе Вашаю дарогай, і на гэтай цяжкай дарозе Вы для нас — духоўны лідэр. Да Вашай думкі хочацца прыслухацца, Ваша слова хочацца чуць зноў і зноў, на яго хочацца адгукнуцца, хаця б у думках.

Нас многа, Ніл Сымонавіч, і мы вельмі ўдзячны Вам за мужнасць, сардэчны жар, за пачэсную працу ў імя будучыні.

Як хутка ляціць час! Як далёка наша маладосць. Мы сталыя людзі, але мы маем патрэбу ў духоўным апірышчы, і вельмі радасна ведаць, што яно ў нас ёсць, бо Вы, Ніл Сымонавіч, навучылі нас любіць свой народ такім, які ён ёсць, і быць з ім разам, як сказала Ганна Ахматава,

*Там, где мой народ,*
*К несчастью, был.*

Жывіце доўга, шаноўны Майстар! Мы рады быць Вашымі сучаснікамі і ўдвая рады адчуваць сябе Вашымі вучнямі.

Хочацца верыць, што Ваша творчая спадчына стане цудоўным урокам дабрыні, розуму, патрыятызму для нашых дзяцей, што ў іх сэрцах адгукнецца тое беларускае, што абудзілі Вы ў нашых сэрцах. Хочацца спадзявацца, што Ваша слова стане нашым агульным словам і паяднае дзяцей нашых у народ, які будзе пачуваць сябе годна і свабодна сярод іншых народаў свету.

Хочацца думаць, што беларусы не згубяць сваіх вытокаў і не забрудзяць сваіх крыніц, сярод якіх бруіць чыстая крыніца Вашага слова, наш Песняр.

Хіба ж не для гэтага мы працуем разам з Вамі?

ГАСЦЁЎНЯ

# Граф — сябра ветэранаў

"Я не ўмею гаварыць. Але калі гавару, дык пераконваю гэта", — прызнаўся расхваляваны госць і прадоўжыў свой аповед на досыць гладкай рускай мове. "Бываюць жа такія цэласная, перакананыя і шчодрыя натуры!" — міжволі здзівішся, калі табе найчасцей выпадае сустракацца з "людзьмі настрою", супярэчлівымі, непрадказальнымі творчымі асобамі. Здзівішся — і задумаешся...

Грамадзянін Польшчы, уладальнік графскага тытула Міхал Сабадах прыехаў у Беларусь і завітаў на сустрэчу да мінскіх журналістаў. Маладжавы, таварыскі, абаяльны граф у свой час, аказалася, зведаў жах палітычных рэпрэсій. Пры канцы 40-х разам з бацькам, афіцэрам Войска Польскага, і маці быў сасланы на Калыму: за сацыяльнае паходжанне. Мясцовым жыхарам, як ён памятае, пад пагрозай смерці забаранялася кантактаваць з лагернымі зняволенымі. І тут уразіла юнага Міхала дабрыня звычайных рускіх людзей, якія, рызыкуючы сабой, цішком падкормлівалі яго — то бульбінкай, то кавалачкам хлеба, — уратаваўшы ад голаду, ад пагібелі.

Пасля 1958-га змог вярнуцца на радзіму. Неўзабаве яго фамільны маёнтак, што ва Вроцлаўскім ваяводстве, набыў вядомасць як адзіны ў Еўропе, на захад ад Буга, музей Савецкай Арміі, месца традыцыйных сустрэч ветэранаў другой сусветнай вайны — салдат, афіцэраў, генералаў як Войска Польскага, так і чырвонаармейцаў.

Сядзіба графа зрабілася прытулкам, адхланнем для суайчыннікаў-ветэранаў, забытых урадам, — легендарных касцюшкоўцаў, кавалераў баявых ордэнаў, генералаў. (Гэта выспа гасціннасці і для іх братоў па зброі "за-за Буга"). Штогод збіраюцца яны на вялізнай паляне ў атачэнні маляўнічага краявіду з квітнеючым садам. Наладжваюць фестываль польскай ваеннай песні, але гучаць, сярод многіх, і "Кацюша", і "Дзень Перамогі". Да тысячы чалавек прымае пан Міхал!

З 36-ці пакояў сваёй сядзібы 12 ён абсталяваў пад гатэль з выгодамі, зрабіў невялічкае кафэ для падарожнікаў, адвёў месца і для кемпінга. Наведнікі музея маюць магчымасць патрымаць у руках гістарычныя экспанаты і нават сфатаграфавацца ў вайсковай форме — але толькі, папярэджвае гаспадар, — не дзеля пароды.

Міхал Сабадах клапоціцца і пра добраўпарадкаванне месцаў пахавання савецкіх байцоў. Але ці не самым прыкметным вынікам яго шанавання памяці пра воінаў другой сусветнай сталася ўратаванне помніка выдатнаму палкаводцу дзвюх краін, маршалу К. Ракасоўскаму. Бронзавая скульптура была знята з пастамента і прызначалася для пераплаўкі. Але граф выкупіў яе і ўстанавіў у сваёй сядзібе. Цяпер гэта адзіны ў свеце помнік Ракасоўскаму. (Дарэчы, сын маршала, дазнаўшыся пра ўчынак М. Сабадаха, напісаў яму з далёкага Ростова-на-Доне). Сёлета быў ўратаваны ад пераплаўкі яшчэ адзін помнік — польскаму генералу, які ваяваў у Іспаніі, а ў 1948 г. быў расстраляны.

З кожным годам ветэранаў мінулай вайны ўсё менш. А плынь гасцей да пана Міхала павялічваецца. Прыязджаюць людзі маладзейшага пакалення, цікаўныя турысты (па суседніх землях, між іншым, раскідана каля паўсотні замкаў). Ён шмат падарожнічае і сам. Паглядзеўшы на цывілізаваны свет, з большай перакананасцю абараняе ўласнае "дзівацтва": "Як можна, ваюючы з помнікамі, знішчаць гісторыю?! У Францыі, напрыклад, ёсць плошча героям Сталінграда. У той жа краіне стаяць помнікі і Напалеону, і дэ Голю. І міністру паліцыі, чалавеку з кепскай славай, — Фушэ. Яго помнік таксама трэба захоўваць, трэба паказваць, каб наступныя пакаленні ведалі, як выглядае зло, калі раптам з'явіцца хтосьці новы ў падобным абліччы..."

Дзякуючы журналістам пра самавітага польскага калекцыянера даведаліся ў свеце. Да яго дайшлі карэспандэнты "Комсомольской правды", "Московских новостей", тэлевізійшчыкі з "Астанкіна", іх украінскія калегі. У любы час, калі, вядома, сам не вандруе, Міхал Сабадах будзе рады прыняць беларусаў. У яго вялікай хатняй бібліятэцы, дарэчы, ёсць і кнігі на беларускай мове. А яго вялікі дом заўсёды адкрыты для добрага.

С. БЕРАСЦЕНЬ

АНОНС

# Аркестры ўсе да нас!

І рэці Нацыянальны фестываль эстрадных аркестраў пройдзе ў зале сталічнай філармоніі з 18 па 21 кастрычніка. Гэты парад музычных калектываў урачыста адкрываюць яго арганізатары — Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга. Адкрыюць выбітнай праграмай, якая сімвалізуе даніну павагі да самых яркіх з'яў сусветнай і нашай нацыянальнай музычнай спадчыны прамінулага ХХ стагоддзя. Назва праграмы — "У свеце музыкі" — "Бітлз" і "Песняры". І калі "Сімфонія "Бітлз", напісаная салістам аркестра, таленавітым музыкантам Уладзімірам Ткачэнкам, ужо вядомая прыхільнікам жанру, дык створаная ім жа кампазіцыя паводле папулярнай класікі "Песняроў" будзе прэм'ерай.

Творчасць Дзяржаўнага канцэртнага — эталон, на які арыентуюцца сёння многія эстрадныя аркестры і ансамблі нашай краіны. Лепшыя з іх возьмуць удзел у фестывалі, мэта якога — узнавіць грамадскую цікавасць да гэтага жанру, паспрыяць мастацкаму развіццю, узбагачэнню рэпертуару, удасканальванню прафесійнага майстэрства калектываў з усіх абласцей Беларусі.

Традыцыйныя агледзіны эстрадных аркестраў краіны яшчэ не пачаліся, а маэстра М. Фінберг плануе з іх удзелам ужо новую імпрэзу — джазавы фэст пад назвай "Нарач-2002".

Н. К.



*На здымку: заслужаны артыст Беларусі, аранжыроўшчык і кампазітар Уладзімір ТКАЧЭНКА.*

*Фота А. ПРУПАСА*

***Што б там ні было, а жыццё на Беларусі доўжыцца. І бабулькі ля майго пад'езда, як заўжды, ціха радуюцца з нагоды своечасова атрыманай пенсіі; і суседу па доме, як і заўжды, моташна зранку ад пражытага і выпітага ўчора; і па-ранейшаму хтосьці бесклапотна і ўежна бавіць час, а хтосьці зацята і ціха робіць справу; і хапае на гэтай зямлі беларусаў, але не менш – і тутэйшых. І купалаўскія словы, як і 70 з гакам год таму, гучаць не менш балюча: "Мы павінны растаптаць, зніштожыць даўгавечную ману, якая вучыць, што мы не ёсць мы, што мы нейкае нешта, якое абы накарміў, як быдлё, дык і сыта будзе. Мы павінны душу народную выявіць у сваім "я", у сваёй самабытнасці і смела сягнуць па сваё неабдымнае права самім распараджацца сваім "я". Мікіты Зносакі, услаўляючы тутэйшасць і прыстасоўваючыся да ўсіх і ўсяго, без шкадаванняў заклалі тую душу за тры грошы. Упартыя ў сваёй непрагматычнасці Янкі Здольнікі толькі ў гэтай душы народнай ды самабытнасці і бачаць свой адзіны жыццядзейны скарб. Дзе тая душа-летуценніца? Не толькі ў слове, радку, учынку і думцы. У адмысловым гліняным збанку, які з любоўю зладзіў калісь непісьменны продак-ганчар, у непаўторным разьбярскім карунку ліштваў, у саламяным "павуку" пад столлю вясковай хаты, у арыгінальным кавальскім вырабе, у віртуозным шчыраванні майстра выцінанкі... Ва ўсім гэтым – неабдымная беларуская душа, якую ні прадаць, ні купіць. Пра душу, пра творцу, пра Беларусь і размаўляем з Яўгенам САХУТАМ – доктарам мастацтвазнаўства, лаўрэатам Дзяржпрэміі, вядучым навуковым супрацоўнікам Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нацыянальнай акадэміі навук, старшынёй Беларускага саюза майстроў народнай творчасці.***

# Павінны выявіць душу

**— Яўген Міхайлавіч, якая з пералічаных пасад бліжэй да вашай душы?**

— Праца ў саюзе народных майстроў. Без ваганняў гэта сапраўды так, бо на хлеб зарабляю за кошт навуковай дзейнасці ў акадэміі, а ўвесь вольны час аддаю саюзу, які ў свой час зарганізаваў і ўзначаліў на грамадскіх пачатках. У 2002-ім адзначым першы круглы юбілей саюза — дзесяцігоддзе.

**— Вы займаецеся творчасцю майстроў, якія і па сёння доўжаць традыцыі продкаў. Які сэнс закладваеце ў паняцце "народнае мастацтва"? Непадманнае, сапраўднае, дзе не кан'юнктура, не мастакоўскія салонныя амбіцыі, нават не творчае саперніцтва, а звычайнае жаданне не згубіць прагі да жыцця — застацца беларусам? Інакш кажучы, народнае мастацтва — не столькі гарадское, колькі вясковае?**

— Народны — гэта сінонім паняцця "традыцыйны". Натуральна, што нацыянальныя традыцыі захаваліся перш за ўсё ў нашых вёсках. Можна запярэчыць, маўляў, пэўная частка вяскоўцаў за апошнія гады грунтоўна атабарылася ў гарадах. Таму неардынарнасць сітуацыі ў тым, што менавіта горад зараз актыўна зацікавіўся традыцыйнай беларускай культурай і вяртае яе ў вёску. Але унікальнасць вось яшчэ ў чым. У краінах Заходняй Еўропы самабытная культура была ледзь не цалкам знішчана з-за імклівага навукова-тэхнічнага прагрэсу. Беларусі пашчасціла (няма ліха без дабра!), мы паспелі зразумець каштоўнасць народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва да яго канчатковага заняпаду. Так што карані свайго дрэва не падсеклі — жыць яму і красаваць.

**— Усё ж, даруйце за дылетанцкае пытанне, Саюз беларускіх мастакоў — не канкурэнт вашай арганізацыі?**

— Ні ў якім разе! Дзве асобныя дзялянкі працы, дзве паралельныя плыні, і дзяліць нам няма чаго. Народнае дэкаратыўна-прыкладное мастацтва, дакладней, тое, што робіцца рукамі (ганчарства, ткацтва, вышыўка, разьбярства...) істотна адрозніваецца ад прафесійнае мастакоўскай дзейнасці. Народныя майстры, хоць і не пачаткоўцы, але не маюць спецыяльнай мастацкай адукацыі, а майстэрства сваё пераймаюць ад продкаў, працягваюць доўжыць традыцыі, уласцівыя пэўнай мясцовасці: вёсцы, раёну, вобласці. Па-другое, вырабляюць яны рэчы, якія калісь лічыліся утылітарнымі — прылады працы, побыту, адзенне. Але, ставячы практычныя задачы, народныя майстры мінуўшчыны, удасканальваючы тэхналогію сваёй працы, стваралі па сённяшніх мерках сапраўдныя цуды мастацтва. Ці можна зараз удасканаліць функцыянальную прыгажосць звычайнага, здавалася б, збанка з-пад малака? Яго шліфоўка ішла стагоддзямі! А мастацкім саветам быў рынак — не менш прынцыповы і патрабавальны. Задача сённяшніх народных майстроў захаваць, памножыць традыцыі бацькоў і дзядоў, вылучаючы на першае месца не утылітарнае, а духоўнае. І сёння вышываны ручнік, саламяная фігурка, цацка драўляная ці нейкія абрадавыя рэчы выконваюць часцей іншыя функцыі. Яны шчодра дораць нам цеплыню, прыгажосць, духоўнасць, пераконваюць, што беларускі народ — самабытны і непаўторны. На ўсведамленні і глыбокім шанаванні гэтага трымаецца любая нацыя. І цалкам згодны, што ўсе гэтыя рэчы, зробленыя рукамі, асветленыя павагай да продкаў і любоўю да спадкаемцаў, — працяг нашай неўміручай душы. І заўжды ёсць усе падставы, як мроіў Купала, выявіць гэтую душу ў сваім "я", займець урэшце права гаспадара, а не госця ў роднай хаце.

**— Штосьці, аднак, усё час не спрыяе...**

— А час нікому і ніколі не спрыяў. І глабальнае Зло заўжды існавала, дый будзе існаваць, але ж няма скону і прыгажосці, духоўнасці, так бы мовіць, сусветнай Дабрыні, беларускі ўнёсак у якую заўжды быў важкім і адмысловым. Невыпадкова Захад зараз дзеля асабістага духоўнага аздараўлення жывіцца менавіта нацыянальным мастацтвам. Ніякая прамысловасць, ніякія сучасныя тэхналогіі і станкі не заменяць рэчы, зладжанай рукамі народнага майстра. У кожным творы павінна існаваць душа, сугучная нацыянальным патрабаванням пэўнай нацыі ці народнасці. Таму кожны носьбіт беларушчыны, як і кожны майстра, павінен уносіць у агульную справу Бацькаўшчыны штосьці сваё, адмысловае, але агульнае па нацыянальным духу. Так, не ўсё атрымліваецца, як нам хацелася б...

**— І па простай у сваёй банальнасці прычыне — дзяржаўныя інтарэсы ніяк не супадуць з нацыянальнымі.**

— Так, мы раз'яднаныя. На "патрыётаў" і нацыяналістаў, на праваслаўных і "няверных", на сумленных і абыякавых... Амерыканцы — нацыя! Аб'яднаныя страшэнным горам, яны гуртуюцца зараз вакол свайго нацыянальнага сцяга. Вакол чаго аб'ядноўвацца нам, пацярпелым ад Чарнобылю, ад духоўнай і эканамічнай няшчымніцы? Паўтараю, нам — старажытнай нацыі з унікальнай культурай і шматвекавымі традыцыямі для выяўлення свайго "я" не хапае толькі дробязі — нацыянальнай ідэі на дзяржаўным узроўні.

**— Як бы вы яе сфармулявалі?**

— "Беларусь — для беларусаў!" Натуральна, маю тут на ўвазе грамадзянства, а не нацыянальнасць. Не менш свядомым носьбітам беларушчыны поруч з прадстаўніком этнічнай нацыі можа быць (дый ёсць насамрэч!) і ўкраінец, і рускі, і татарын, і габрэй. І справа тут не толькі ў тым, каб кожны паважаў гісторыю і культуру гэтай зямлі, каб не ганьбіў мову. Гэта, як кажуць, неабходны мінімум. Трэба яшчэ да ўсяго і сумленна, самаахвярна працаваць на адраджэнне і ўмацаванне таго, што мы называем беларушчынай, а ў любой прагрэсіўнай дэмакратычнай краіне — нацыянальнай самасвядомасцю. Напэўна, сярод сённяшніх грамадзян Амерыкі — прадстаўнікі ледзь не ўсіх нацыянальнасцей свету. Але кожны лічыць сябе амерыканцам і гатовы адстойваць менавіта амерыканскія інтарэсы. Усё вельмі проста: грамадзянін стаіць гарой за дзяржаўнасць, якая гарантуе ягонае першаснае права пачуваць сябе чалавекам, карацей, адстойвае дзяржаву, а значыць — сябе.

**— Дарэчы, нядаўна па тэлебачанні расійская палітычная дзеячка Хакамада, дыскутуючы наконт таго, што тэракты ў Амерыцы — барацьба жабракоў з багатымі, зазначыла не без падстаў, што жабрацтва буяе толькі ў тых краінах, урад якіх пляваць хацеў на чалавека, яго жыццё і лёс.**

— Але гэта не падставы для таго, каб беларусы, склаўшы рукі, енчылі ды займаліся самаедствам... Мы — не жабракі. За намі — вялікая культура і магутны дух продкаў.

**— Вы, Яўген Міхайлавіч, — чалавек моцны? Вам не сумна, напрыклад, што восень на двары, а на носе — халодная зіма, з якой, ох, як не хутка выкараскаемся?**

— Ды звычайны я чалавек. Мо крыху больш эмацыянальны, чым трэба. Але гэта хутчэй не мінус мой, а плюс. Жыццё наперад рухаюць неабыякавыя. І што б там ні было наўкола, часу для суму проста не стае. Лепшыя лекі ад любых дэпрэсій — праца. Так што сумаваць не раю нікому — сабе даражэй. Вучыцца трэба ў беларускіх майстроў — разьбяроў, кавалёў, ганчароў... Уласнымі рукамі яны ствараюць сапраўдныя цуды, іншым разам проста не ўсведамляючы гэтага. Не прыгадаю лепшага прыкладу бескарыслівага служэння Дабрыні.

**— Вельмі любіў у дзяцінстве беларускі дзіцячы фільм-казку "Горад майстроў". Для таго, каб не здымаць шапкі перад акупантамі-чужынцамі, гараджане іх проста не насілі і змагаліся за сваё да апошняга... Беларусь — краіна майстроў?**

— Як і любая іншая краіна! У мільённы раз паўтару, любы народ жывіцца духам традыцыйнай культуры, носьбітамі якой з'яўляюцца ў тым ліку і народныя майстры... У канцы XIX стагоддзя — пачатку XX-га кожны мужчына павінен быў валодаць сякерай (не толькі баявой, але й цяслярскай), а жанчына заўжды была заўзятай ткачыхай. Узаемазвязаныя паняцці: умелыя рукі — чыстая душа, незаплямленае сумленне.

**— Што ўмееце рабіць рукамі вы?**


*На свяце "Саламяныя дзівосы", чэрвень 2001 г.*

— Выцінанку, цацку саламяную. Лецішча сам пабудаваў... Увогуле, мужчынскую жыццёвую праграму-мінімум даўно выканаў. Дрэва пасадзіў (не адно, а сотні), замест сына дзве дачкі выхаваў. Шкада, што жывуць яны зараз не ў Беларусі, а ў Італіі. Што зробіш, калі ў сённяшняй нашай дзяржаве не змаглі яны самарэалізавацца ў поўную сілу...

**— Крыху падрабязней. Яўген Міхайлавіч, пра дзейнасць Саюза майстроў.**

— Пачынаць давялося практычна з нуля. Ні публікацый, ні кніг, ні музеяў па народным мастацтве ў Беларусі проста не было. У савецкі час нам даволі паспяхова даводзілі, што народнае мастацтва — не больш чым экзотыка, а не культура будучыні, без вывучэння якой працэс нацыянальнага самаўсведамлення проста немагчымы. Калі адшукваў яшчэ жывых састарэлых разьбяроў ці ганчароў, ледзь не ад кожнага чуў: "Мой сын не будзе гэтым займацца!" Маўляў, каму гэтыя забаўкі трэба. І вясковыя дзяўчаты-студэнткі, уладкаваўшыся ў гарадскія інтэрнаты, выкідвалі тканыя посцілкі, вышываныя ручнікі — саромеліся. Дзякаваць Богу, сітуацыя змянілася. Зараз прэстыжна ўсведамляць сябе часткай беларускай культуры... Саюз наш быў створаны ў цяжкі час. Савецкая імперыя распалася. Грошай не было ні капейкі. Але падтрымалі Саюз мастакоў, Міністэрства культуры, Беларускі фонд культуры. Неяк выбраліся, пачалі дзейнічаць, акрэсліўшы канкрэтныя задачы: гуртаванне народных майстроў, арганізацыя пераемнасці традыцый, уключэнне народнага мастацтва ў сучасныя нацыянальна-культурныя працэсы. Зараз у нашым саюзе больш за 400 майстроў. На першым часе агітавалі будучых сяброў, зараз — адбіраем лепшых. Дапамагаем у арганізацыі школ, курсаў, выстаў. Работы хапае ўсім — і майстрам, і тым, хто толькі хінецца да нас, хоча засвоіць традыцыі народных рамёстваў. Сталася магчымым праводзіць рэспубліканскія святы па розных відах народнай творчасці: з 97-га па леташні год адбыліся конкурсы "Саламяны цуд", "Лазовыя карункі", "Дрэва жыцця" (разьбярства), "Ажурныя фантазіі" (выцінанка). Сёлета правялі свята кавалёў "Залатая падкова". Натуральна, супрацоўнічаем з Міністэрствам культуры.

**— Дапамога дзейсная?**

— Вельмі. Але ўсё роўна сродкаў не хапае. Міністэрства наша — таксама не з багатых. Трымаемся збольшага на энтузіязме. У штаце саюза — тры супрацоўніцы на невялічкіх заробках, якія выплачваюцца за кошт сяброўскіх унёскаў. І сёлетняе кавальскае свята, праведзенае ў чэрвені, можа стаць апошнім, бо з арганізацыямі, якія дапамагалі ладзіць конкурс, пакуль што не расплаціліся... Да месца тут успомніць, што саюз наш месціцца ў інтэрнаце Політэхнічнай акадэміі (дзякуй кіраўніцтву), памяшканні малыя, лепшыя ўзоры народных вырабаў (а іх сотні) літаральна няма дзе захоўваць. Дарэчы, выставы ладзім штогод. Экспанаты на іх — унікальныя, у іншым месцы такога проста не пабачыш. Бліжэйшая выстава, да прыкладу, запланавана ў Гродне пры дапамозе мясцовага гісторыка-археалагічнага музея. Выстаўляліся нядаўна нашы майстры ў Віцебску, на Гомельшчыне... Дапамагае нам крыху Беларуская канфедэрацыя творчых саюзаў. Зрэдку дзяржава дае грошы на правядзенне разавых акцый. Але гэтага хранічна не хапае...

**— Вы калісь рэдагавалі часопіс "Мастацтва". Творцу цяжка стаць чыноўнікам?**

— Даруйце, ніколі я не быў чыноўнікам, бо заўжды займаўся жывой справай... Дарэчы, рэдактарскі вопыт аказаўся вельмі карысным. Маю на ўвазе вопыт зносін з творчымі людзьмі... Але найпершая мая справа — кіраўніцтва саюзам. Тут я адчуваю сябе патрэбным і найбольш карысным. Паверце, вельмі важна для кожнага ўсведамляць сваю патрэбнасць, мець магчымасць для максімальнай самарэалізацыі. Ішоў да гэтага 30 год. Спадзяюся, што ўсё гэта недарэмна, бо таксама шчырую на ніве адраджэння беларускай душы...

**Гутарыў Яўген РАГІН**

ЛіМ ЧАСАПІС

## Чарадзейны туман

**Вы не ведаеце, што такое чарадзейны туман? У такім разе разгарніце кнігу Барыса Стральцова з гэткай назвай і адшукайце ў ёй аднайменны абразок. Калі пачняце знаёміцца з ім, адразу быццам пачуеце спакойны, разважлівы голас аўтара, які стараецца як мага хутчэй даць адказ на згаданае пытанне, а таму запрашае разам адчуць гэты цуд: "Прачніцеся додніцай, на самым краёчку досвітку. Тады, калі сонца яшчэ не выглянула з-за небасхілу, і толькі бледна-пурпуровая, падзалочаная альбо жоўтая з просінню ці з лілаватай падсветкай паласа пазначылася між размытым блакітам неба і падцемненымі фарбамі зямлі. Прачніцеся сёння, заўтра, паслязаўтра... І кожны раз вас будзе чакаць цуд, які не перадасць пэндзлем ніводзін, нават самы таленавіты мастак."**



Гэты цуд не паўтараецца. Ён кожнай додніцай нечым адметны. І кожны раз поўніць душу спакойнай радасцю, ціхім замілаваннем, надзеяй і чаканнем чагосьці добрага, незвычайнага, таямнічага". А цуд гэты — нішто іншае, як туман. — "летні — клубісты, асабліва ранішні, — з эфіру і — хочаце верце, хочаце не — з непазнаных начных мрояў добрых людзей. Адсюль і яго чарадзейнасць. Гэта ён гоніць травы на прырэчных лугах. Гэта ён варушыць у лесе грыбніцы, прымушае іх набухаць і прабівацца да святла скрозь пласты іглiцы і ліставой прэлі. І ён жа дабаўляе неспакою і тамлення хлопцам і дзеўкам у месячныя летнія ночы". Абразок "Чарадзейны туман" — колькі слоў пра звычайную прыгажосць, якую можна ўбачыць толькі дапытлівым, уражлівым і пільным вокам. "Чарадзейны туман" — пра неабходнасць бачыць паэзію ў паўсядзённасці. "Чарадзейны туман" — пра той дзіўны стан душы чалавека, які перажывае ён, калі сутыкаецца з хараством наваколля. Акрамя згаданага эскіза, у новай кнізе Б.Стральцова, а выпусціў яе Беларускі саюз журналістаў, змешчана яшчэ 27 твораў гэтага жанру. І таксама такіх, што даюць шмат душы і сэрцу. Возьмем, для прыкладу, першы з іх "Чым пахне месячнае святло". Не спіцца "я-герою", выходзіць ён у дачны сад: "Ноч была светлая, вэлюмна-празрыстая, ціхмяна задумлівая. Ніводнага гуку — нямая ціш, сонны спакой прыроды. А над усім гэтым — поўня. Гэта яна слала срэбна-жаўтлявае святло, клала на зямлю доўгія цені дрэў, лашчыла маладую лістоту і раннія ружы на газоне"... Не проста ноч была, а казка: "І дзіва дзіўнае: мне пamроілася, што месячнае святло пахне. Тонка, ледзь улоўна, прывідна, але пахне..." І, як высветлілася, гэта быў пах фіялкі. Толькі "чаму фіялкі? Адкуль фіялкі? Іх поблiз заваду не было". І раптам успомніўся, "у памяці ўсплыў нядаўні факультэцкі вечар. У агульным шуме і тлуме пачуццё адзіноты... Абвешчаны дамскі вальс..." Валасы ў жанчыны пахлі фіялкай, адсюль і гэтая асацыяцыя, што ўзнікла позняй ноччу, на ўлонні прыроды. Нарадзіўся абразок, які ўспрымаецца паэзіяй у прозе. І іншыя абразкі Б.Стральцова сведчаць аб назіральнасці іх аўтара і аб уменні ствараць адпаведны настрой. І не толькі паэтычна-ўзнёслы. Паўсядзённае жыццё такое, што ў ім не толькі радасць. Надараюцца і іншыя моманты. Адны выклікаюць роздум, другія — у сваёй сутнасці ў чымсьці драматычныя. Але чытаеш іх і не можаш заставацца абыякавым да таго, пра што расказвае пісьменнік. Як не можаш быць абыякавым і да апавяданняў, пяць з якіх таксама прадстаўлены ў кнізе. У адрозненне ад абразкоў яны, як таго і вымагае жанр, маюць разгорнутыя сюжэты. Кожны з персанажаў запамінаецца, бо героі твораў Б.Стральцова з людзей, лёс якіх чымсьці вылучаецца ад жыццяпісу іншых людзей. Запамінаецца і Венька з апавядання "Жывіца", які надоўга пакідае родную вёску, каб пасля вярнуцца да маці з песняй "А я еду, а я еду за туманом..." І падлетак з апавядання "Панька-камерсант" — таксама. А ўсё гэта сведчыць аб тым, што Б.Стральцоў добра валодае пяром, умее быць псіхалагічна дакладным.

**Міхась ГЕНЬКА**

ПАЭЗІЯ

### Мар'ян ДУКСА



## Зялёны пырнік забыцця

Песні-жальбы

*1*

*Маленства, ўспомніся салодка,*
*хоць горкім і было, аднак...*
*Дратоў калючых абгародка —*
*калгасных пашаў важны знак.*
*Яна далася вам у знакі,*
*дапамагла зусім схуднець,*
*ах, коні, коні-небаракі,*
*кароўкі, што паўзлі ледзь-ледзь.*
*Глядзелі сумна на аратых*
*цераз асеннюю імжу.*
*Мычанне з тых, пяцідзесятых,*
*і зараз тузае душу.*
*Драты ля пашы, ля дарогі,*
*драты, што аплятаюць луг...*
*Нікуды вам не дзецца, ногі,*
*не выскачыш на волю, дух.*
*Куды нам вецер і "Пагоня",*
*калі нямее сціты рот,*
*калі абвыкліся ў загоне,*
*штодзённа гледзячы на дрот.*
*Плыла вясна, свяціла лета,*
*усім хацелася цяпла.*
*І вёска, кінутая ў гета,*
*спявала, плакала й жыла.*

*2*

*Ізноў згінаецца пахіла*
*ад пакаяння галава.*
*Даруй, о бацькава магіла,*
*што любіць так цябе трава.*
*Ад жалю кроў самотна стыне,*
*сціхае шум сэрцабіцця.*
*які ты моцны і настырны,*
*зялёны пырнік забыцця!*
*Расцеш, бы гледзячы на зоркі —*
*але які ў цябе ўмалот?..*
*Запаланіў усе падворкі,*
*з усіх бакоў абняўшы плот.*
*Няўжо мінулае прапала*
*і ўсё былое — гук пусты?*
*Бо, дзе нага мая ступала,*
*там раскашуеш толькі ты.*
*І дні гарачыя не спаляць*
*цябе — ты неўміручы спрэс.*
*Ужо ў апошні час і ў памяць*
*са спрытам здрадніцкім палез.*
*Мне ад цябе ні кроплі толку,*
*хоць ты між пустазелля зух.*
*Адчайную вядзе прамолку*
*у памяці мой сумны дух.*

*3*

*О час, намер твой кожны скрытны,*
*я шмат аб чым цябе пытаў.*
*Куды падзеўся стаў мой рыбны —*
*заліты сонцам шчодры стаў?*
*Прагрэты мяккі вал пясчаны*
*упадабаў чамусьці мох.*
*Мох забыцця расце адчайна,*
*хоць ён не раз у спёку сох.*
*Ах, як ты вабіў, стаў, пад вечар*
*вадой, што ззяла ад цяпла!*
*Вада таго купання ў вечнасць,*
*нас не пытаючы, сплыла.*
*Сплыла, накрыўшыся смугою,*
*упаўшы ў неба ці раку.*
*Ці помніць сёння дно сухое*
*з дурманным пахам асаку?*
*Любімы стаў, твой лёс зайздросны.*
*Бо хоць лілеі адцвілі,*
*ды праз цябе жывыя сосны,*
*як праз дзяцінства, прараслі.*
*Зязюля лічыць на сасонцы*
*мой век, магчымых вёснаў бег...*
*Лес забыцця шуміць пад сонцам*
*на месцы колішніх уцех.*

*4*

*Аддаў ён мёд, пчалой учуты.*
*Нібы пакліканы з нябёс,*
*ператварыўшы ў парашуты,*
*свой адуванчык пух узнёс.*
*Той пух ляціць на агароды,*
*плыве між траў на бліжні луг.*
*А зверху, зверху, як заўсёды,*
*спадае тапаліны пух.*
*Аж залятае ён у роздум,*
*настолькі тога пуху шмат.*
*Ён сыплецца таксама з гнёздаў,*
*дзе ўжо не стала птушанят.*
*Яго наўкол ужо задужа,*
*хоць скора восень, не вясна.*
*Ён са старых ляціць падушак*
*і вырываецца з акна.*
*Куды пасунуцца мне ў госці?*
*Тут ні старых, ні маладых.*
*Як многа мёртвых хат у вёсцы —*
*асіpацелых гнёзд пустых.*
*Дзе цішыня стаіць нямая,*
*дзе павукі не знаюць мух,*
*скуль ветрык свежы выдзімае*
*праз дзіркі выпадковы пух.*

*5*

*Псуецца мой настрой маркотны,*
*тут, мусіць, радавацца грэх.*
*Ах, як на вуліцы самотна,*
*дзе раптам сціх дзіцячы смех.*
*Вось бы паліўся з чыстых вокан*
*матыў музычных перадач.*
*Чамусь не чуюцца навокал*
*ні жвавы піск, ні лёгкі плач.*
*Не чуцен рогат кампанейскі,*
*што вечарам гукаў гасцей.*
*Тут нават Езус Галілейскі*
*сумуе моцна без дзяцей.*
*Ён адчувае Сам трывогу:*
*даўно вясёлы смех заціх.*
*Бо даспадобы радасць Богу,*
*што льецца з вуснаў маладых.*
*І збудзецца аднойчы гэта,*
*адкінуць хаты ранні сон,*
*калі нарэшце ў вёсцы лета*
*свой дачны распачне сезон.*
*І гарадскім ажывяць шыкам*
*пустыя хаткі сваякі.*
*І дзеці іх запоўняць крыкам,*
*нібы залётныя гракі.*

*6*

*Якая ўцеха гэта — птушкі!*
*Іх толькі ў холад не стае.*
*Не перасталі ў вёсцы гушкаць*
*яны мелодыі свае.*
*Як аддаюцца песні шчырай*
*сярод сваіх будзённых спраў!*
*Ніякі экзатычны вырай*
*ад родных гнёзд не адарваў.*
*Яны нідзе не забывалі,*
*што ў іх ёсць родная зямля.*
*Штодзённа ладзяць фестывалі*
*ў калысцы мяккага галля.*
*Яны так любяць свет зялёны*
*пасля дарогі і зімы,*
*абсеўшы ранкам ліпы й клёны,*
*даўно забытыя людзьмі.*
*Яны лятуць сюды не ў госці —*
*да мілых сосен, гумнаў, хат.*
*Свет ажыўляюць весялосцю*
*сваіх бясконцых птушанят.*
*Змагчы як цяжка крыллям змогу!*
*Было б застацца дзесь прасцей.*
*Ды хто ж падорыць радасць Богу,*
*Які сумуе без дзяцей?*

*7*

*Пакуль я свет рукамі мацаў,*
*браў на язык і пыл, і дым,*
*у вырай адляцела маці,*
*і мой падворак стаў пустым.*
*Пакуль я ў свеце плыў, як рыба,*
*і па паверхні, і па дне,*
*дамка майго жывая шыба*
*не дачакалася мяне.*
*Маіх вандровак сумны вынік:*
*я тут, але збірайся прэч —*
*спыніўся стомлены гадзіннік,*
*астыла колішняя печ.*
*Дыхне з шуфляды час найлепшы,*
*які без печкі саграваў.*
*Ляжаць наіўненькія вершы,*
*якіх ніхто не друкаваў.*
*Ў адбымкі ўдач, на безгалоўе*
*шпурнуў гады я ўсе свае?*
*Што страціў я, а што знайшоў я?*
*Як стрэл, пытанне ў сэрца б'е.*
*І горка робіцца адразу,*
*як вочы глянуць на абраз.*
*На жаль, не ведаю адказу.*
*Ці ёсць ён — правільны адказ?*

*8*

*Што возьмеш ты з таго паэта,*
*што асядлаць жадае час?*
*Ды хто ні рваўся з тога гета,*
*якім калісьці быў калгас!*
*Да явы дакрануцца іншай,*
*дзе вір людскі і гул гудкоў!*
*Далей ад ганьбы найвялікшай,*
*нікчэмна-лагерных пайкоў.*
*Туды, у свет, які за рэчкай,*
*туды, дзе нейкі шанц відзён.*
*Далей ад паншчыны савецкай,*
*пустых, як свіран, працадзён.*
*Дарога ў ззянне небасхіла,*
*дзе слізгануў метэарыт,*
*чыю душу ні захапіла,*
*ні прыцягнула, як магніт.*
*Ты бег, як страціўшы калодкі,*
*нібы сабака з ланцуга.*
*Твой шлях, здавалася, кароткі*
*ад мурага да пірага.*
*А хоць бы ў вір, чымся прапасці,*
*змарнець пад ліпаю старой.*
*Пазалачоны прывід шчасця*
*усім свяціўся за гарой.*

*9*

*Не з'едуць г э т ы я, не з'едуць,*
*не кінуць соткі і крыжы.*
*І не збіраюцца адведаць,*
*чым пахнуць шчасця міражы.*
*Іх засталося толькі жменька,*
*былых красунь і дзецюкоў —*
*нядошлых, згорбленых, старэнькіх,*
*свайго жытла вартаўнікоў.*
*Хоць іх жыццё і стала ранай,*
*якую лёс саліў не раз,*
*ды на зямліцы адабранай*
*дабудуць век, свой позні час.*
*Ужо не вабіць свет далёкі,*
*ім свеціць сонцам белы мак.*
*Свае з'яднаныя валокі*
*не возьмуць зараз і за так.*
*Ідзе паціху вызваленне*
*і ад турбот, і ад валок*
*у выніку перасялення*
*на персанальны свой грудок.*
*Хіба ўжо ім за розум брацца?*
*Накшталт расійскіх бурлакоў,*
*цягнуць ім воз сялянскай працы*
*сярод травы і буракоў.*

*10*

*А я, вярнуўшыся дадому,*
*дзе засталіся ціша й Бог,*
*заўжды ўпадаю лёгка ў кому,*
*прысеўшы на стары парог.*
*Не бачу бедную маёмасць,*
*што адчуваю — ці скажу?*
*На дно плыву цераз свядомасць,*
*яе адолеўшы мяжу.*
*І думкі з целам паліліся*
*у тыя даўнія часы,*
*дзе радасна перапляліся*
*людзей і птушак галасы.*
*Выразна чую на падворку*
*(час памяць не перамалоў!)*
*іх мілагучную гаворку*
*і рэха музыкі і слоў.*
*Які ён вабны — міг салодкі.*
*Прыходзіць моц, калі нядуж,*
*як стануць пясціць*
*твар твой продкі*
*сваімі воблачкамі душ.*
*І хоча сэрца ў млосьці біцца,*
*прыпыніць час сваю хаду.*
*Я дыхаю — нібы з крыніцы*
*п'ю найчысцейшую ваду.*





беларускія навучальныя ўстановы?

На жаль, досыць скупа і без відавочнай асабістай зацікаўленасці (балазе, журналісты нагадалі) выказалася новае кіраўніцтва тэатра пра беларускі рэпертуар, пра стасункі са сваімі аўтарамі. Хаця гісторыя гэтага параўнальна маладога калектыву захавала факты сапраўднага творчага супрацоўніцтва з айчыннымі кампазітарамі: Юрыем Семянякам, Яўгенам Глебавым, Рыгорам Сурусам, Андрэем Мдзівані, Віктарам Войцікам, Алегам Чыркуном, Уладзімірам Кандрусевічам (чый мюзікл "Шклянка вады" — дагэтуль у рэпертуарным актыве)...

Што ж, можна скептычна ставіцца да нацыянальнай рэпертуарнай спадчыны. Але можна імкнуцца ажывіць, мадэрнізаваць яе лепшыя старонкі. Можна чакаць, пакуль хтосьці з аўтараў пачне займацца самарэкламай, пастукаецца ў дзверы Тэатра. А можна пагартаць даведнікі, вывучыць спісы створанага ў адпаведным жанры, пазнаёміцца з вядучымі ды перспектыўнымі кампазітарамі, з іх музыкай, замовіць арыгінальны твор...

Напэўна, упрыгожыла б наша культурнае жыццё і зрабіла гонар тэатру "Агатка" Я.Голанда. Набыткам зрабілася б "Чарадзейства ў краіне Оз" А.Атрашкевіч, што ідзе ў Маладзечанскім абласным тэатры. Зацікавілі б і творцаў, і публіку мюзіклы У.Кандрусевіча "Небяспечныя сувязі", "31 чэрвеня" У.Дамарацкага... Безумоўна, мае права на жыццё папуры з лепшых савецкіх дый дыснееўскіх "мульцікаў". Але маюць права на музычна-сцэнічнае ўвасабленне і героі беларускіх казак. (Яны, дарэчы, няблага пачуваюць сябе ў радыётэатры).

Хораша сказаў А.Ісаеў: "Хацелася б не згубіць тое добрае, што назапашана тэатрам за больш чым 30 гадоў. І навошта арыентавацца на Хабараўск, калі значна бліжэй да нас Вена ды Парыж?!"

Мінск, вядома, — таксама сталічны горад. Гожы, тэатральны, прывабны для гасцей, блізкіх і далёкіх суседзяў. А быў бы ён, адназначна, правінцыйным мястэчкам, якіх многа, калі б не існавала своеадметная дзяржава — Беларусь. А яна, дзяржава Беларусь з яе галоўным, старажытным і сучасным горадам, не існавала б, калі б не народ, адметны сваімі нацыянальнымі традыцыямі, менталітэтам, культурай, мовай.

Дык будзем спадзявацца... Спадзявацца на мудрасць энергічнага дырэктара, які мае намер спалучаць адміністрацыйныя справы з канцэртна-эстраднай і сцэнічнай дзейнасцю. На тое, што заслужаны артыст Беларусі Аляксей Ісаеў скіруе жыццё калектыву ў напрамку, адпаведным назве Дзяржаўнага музычнага тэатра Беларусі. Што нашаму тэатру наканаваны еўрапейскі ўзровень і нацыянальная адметнасць і ён не ператворыцца ў "хабараўскую філію" ці ў "тутэйшае падмаскоўе"... Наша карэнная інтэлігенцыя можа дазволіць сабе і такі спадзеў, ці не праўда?

Ну, а пакуль парадуемся, што папулярны творчы калектыў свой 32-гі сезон пачаў у пасвяжэлым, абноўленым закуліссі: па ініцыятыве дырэктара зроблены рамонт — першы за 20 гадоў існавання гэтага прыгожага будынка па вуліцы Мяснікова...

**С.БЕРАСЦЕНЬ**

*На здымках: сцэны са спектакля "Вясёлая ўдава" (у ролі графа Данілы — заслужаны артыст Беларусі А.ІСАЕЎ).*
*Фота В.СТРАЛКОЎСКАГА*

паступова саступае месца трагедыйнаму. Калі-небудзь, але вочы чалавека адкрыюцца, і ён зразумее, што быў толькі жорстка падмануты. І падман не прыносіць шчасця. Вядома, маэстра Джакама — толькі махляр. Насамрэч ніякіх цудаў — жанчын з дзвюма галовамі ў прыродзе няма. Блазны ж разбураюць сцэну ды ўцякаюць на вуліцу, пакідаючы чалавека ў душэўнай цемрадзі. Цудаў няма. Сапраўднае толькі адзіноцтва.

4.

... У натоўпе чалавек можа быць адзінокі. Ці задушаны натоўпам, як асоба. А яму, натоўпу, зачараванаму ідэямі фашызму, якраз слабыя, схільныя да падлегласці людзі і патрэбны.

Нехта Гельвер (М. Ярміцкі) — адзін з такіх абмежаваных прасцякоў. Як дзіця ён радуецца чорнай вайсковай форме, фашысцкаму сцягу, схаванаму ў доме. І настойліва патрабуе радавацца разам з ім сваю кволую жонку Карлу (К. Вянгліцка). Маўляў, як ты не разумееш прыгажосці, веліч салдата рэйха. Легчы! Устаць! Легчы! Устаць! Раз'юшаны Гельвер гатовы забіць някемлівую жанчыну...

Гісторыя пранікнення нацысцкай ідэалогіі ў ціхае, сямейнае жыццё абывацеляў разгортваецца ў невялікай прасторы сцэны, на якой разам з акцёрамі знаходзяцца і гледачы. Спектакль Тэатра Польскага "Ноч Гельвера" рэжысёр П. Лысак будуе як напружаны, нервовы дыялог двух людзей, стомленых бяссоннай ноччу. Гэта — цалкам акцёрскі спектакль. Ролі падаюцца насычанымі, яркімі фарбамі. М. Ярміцкаму выпадае данесці тонкія душэўныя перажыванні свайго персанажа. Яго Гельвер ці то наіўны, ласкавы хлопчык, ці то апантаны, жорсткі фанат фашысцкіх заклікаў, які пачынае рохкаць, як парсюк, губляючы чалавечае аблічча. Гельвер любіць і ненавідзіць адначасова. Гераіня К. Вянгліцкай спрабуе ўтаймаваць звера, які прачнуўся ў мужы, пакорлівасцю, пяшчотай, клопатам. Як маці, яна туліць да сабе свайго неразумнага Гельвера, які не разумее, ні што адбываецца з ім, ні што вакол яго...

Паўтары гадзіны акцёры проста жывуць на сцэне, нібы не адчуваючы блізкай прысутнасці гледачоў. Публіка ж, прыкаваная да сваіх месцаў такой своеасаблівай рэжысёрскай знаходкай, уцягнута ў інтымны свет двух людзей. Ноч Гельвера — гэта ноч пазбаўлення слепаты, вызвалення ад самападману. Ноч перамогі душэўнай цеплыні над ідэалогіяй страху, гвалту, нелюбові...

5.

...Як было б сумна жыць без Скапэнаў! Гэтыя вынаходлівыя махляры могуць разблытаць (і заблытаць) самыя незвычайныя жыццёвыя сітуацыі, літаральна скалыхнуць сваімі хітрыкамі зямную кулю.

Рэжысёр Г. Трасцянецкі вядомы тым, што паставіў усяго Мальера. У спектаклі "Хітрыкі Скапэна", які на фестывалі паказаў Рыжскі акадэмічны тэатр рускай драмы, ад аднайменнай мальераўскай п'есы засталіся толькі героі ды ланцужок камічных сітуацый, у якія яны час ад часу трапляюць (не без дапамогі Скапэна). Хрэстаматыйны драматургічны твор Трасцянецкі ўвасобіў на сцэне як вольную постмадэрнісцкую фантазію (падчас рэпетыцый ён раіў акцёрам забыцца на Мальера). Героі спектакля апрануты ў касцюмы і мальераўскай эпохі, і высокай моды, і маладзёжнай рэперскай культуры (а адна з гераінь пастаноўкі наогул іграе ў балетнай пачцы ды пуантах). Скапэн, які на пачатку дзеяння з'яўляецца з-пад сцэны і адразу ж пачынае фліртаваць з публікай, абыходзіцца чорнымі майкай і штанамі (у далёкія 60-я такім уяўляўся Гамлет Любімаву). Лёгка імправізуючы, гуляючы з гледачамі, уся гэтая "стракатая" кампанія без перадыху мітусіцца ды блазнуе на сцэне. Здаецца, што тут нехта проста рассыпаў рознакаляровыя цукеркі-дражэ, якія павольна коцяцца ў глядзельную залу, а публіка з радасцю падбірае іх ды кладзе ў рот. Вясёлыя, забаўляльныя "Хітрыкі Скапэна" — гэта свята жывога, не скаванага акадэмічнымі традыцыямі тэатра. Са зладжанага акцёрскага ансамбля, вядома, вылучаецца Скапэн у выкананні Я. Рафальсона, які не толькі любіць свой персанаж, а імкнецца зрабіць яго сучасным...

...Як было б сумна жыць без Скапэнаў! Іншая справа, калі іх хітрыкі перастаюць здавацца забаўляльнымі, калі Скапэнам занадта шмат дазваляюць кіраваць...

6.

Скончыўся фестываль. Скончыліся выбары. Самае яркае тэатральнае відовішча было яшчэ наперадзе...

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**

*На здымках: сцэны са спектакляў "Б'янка Брасэлі — жанчына з дзвюма галовамі", "Хітрыкі Скапэна"*





## *Першы нумар "Украінця в Беларусі"*

**Выхад у свет новага перыядычнага выдання — заўсёды падзея. І для чытачоў, і для выдаўцоў. На пачатку дзевяностых гадоў Беларускае**


УКРАЇНЕЦЬ в БЕЛАРУСІ

№1

Орган Білоруського громадського об'єднання українців "Ватра"

24 серпня — День Незалежності України

Стверджуємо державу, стверджуємо себе

У Міністерстві закордонних справ

БЕРЕЖИ СЕБЕ, УКРАЇНО!

**грамадскае аб'яднанне ўкраінцаў "Ватра" ўжо спрабавала распачаць выданне газеты для сваіх суайчыннікаў, што атабарыліся на Беларусі. Тады выйшла некалькі нумароў, ды на тым справа і спынілася...**

**І вось зроблены новыя захады — у верасні з'явіўся першы нумар газеты "Украïнець в Беларусі", прысвечаны Дню незалежнасці Украіны. Ён пачынаецца інтэрв'ю з Надзвычайным і Упаўнаважаным Паслом Украіны ў Рэспубліцы Беларусь Анатолем Дронем "Сцвярджаем дзяржаву, сцвярджаем сябе", дзе спадар амбасадар канстатуе, што "Украіна адбылася як дзяржава і геапалітычная рэчаіснасць... і зараз ужо немагчыма ўявіць сабе свет і падзеі ў ім без нашай дзяржавы". Далей сп. Дронь разважае, што ўкраінская этнічная суполка — гэта аб'яднанне цалкам добраахвотнае, яно грунтуецца на самаўсведамленні паходжання ўкраінцаў Беларусі, якіх яднае духоўная роднасць, уяўленне пра супольнасць гістарычнай долі. Што тычыцца газеты, дык ён вітае выхад яе першага нумара і спадзяецца на больш шчаслівы лёс новага выдання. На першай старонцы змешчаны верш знанага нашага паэта Сяргея Законнікава "Беражы сябе, Украіна" ў перакладзе на ўкраінскую Валерыя Стралко. Той жа В.Стралко, які з'яўляецца аднычасова сябрам украінскага і беларускага Саюзаў пісьменнікаў, пад рубрыкай "Залаты колас сінявокага краю" ўпершыню прапануе поўны пераклад на ўкраінскую мову легендарнай, вядомай кожнаму беларусу ананімнай паэмы "Тарас на Парнасе". Тут жа друкуюцца ўкраінскія вершы жыхароў нашай рэспублікі.**

**Сярод рубрык першага нумара газеты трэба адзначыць "Крыніцы нашай духоўнасці", пад якой змешчаны гістарычныя нататкі пра Івана Мазепу, Пятра Дарашэнку і Саламею Крушальніцкую, а таксама ўрывак з "Запавету Уладзіміра Манамаха". Цікавасць выклікаюць артыкул І.Валасюка "Уладзімір Вялікі і хрышчэнне Кіеўскай дзяржавы" ды ўрывак з этнапсіхалагічнага даследавання славутага гісторыка Васіля Пачоўскага "Украінцы як народ".**

**Старонка "Справы дыяспары" інфармуе пра дзейнасць таварыства "Ватра", культурнае жыццё ў этнічных суполках. "Пульс Украіны" — паведамленні пра палітычныя і грамадскія падзеі на радзіме. Завяршае выпуск старонка пярэстых публікацый "У свеце цікавага".**

**Першы нумар газеты "Украïнець в Беларусі" выйшаў пры падтрымцы Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцяў РБ на васьмі старонках фарматам "ЛіМа", накладам 1000 асобнікаў. Рэдакцыя, якую ўзначаліў Барыс Міхалюк, маркуе выдаваць пакуль адзін нумар у два месяцы, але, спадзеючыся на матэрыяльна-фінансавую падтрымку Украіны-неньки ды актыўнае супрацоўніцтва суайчыннікаў, плануе павялічыць перыядычнасць свайго выдання. Зроблены захады для ягонага распаўсюджвання праз шапікі "Саюздруку", у перспектыве — абвяшчэнне падпіскі ў каталогу "Газеты і часопісы Беларусі". Для ўсіх зацікаўленых падаём адрас "Украінца ў Беларусі": 220002, Мінск, вул.Камуністычная, 50, т.226-85-71**

**АГА**

# Бацька

Святлана САЧАНКА



•

"Радзіму і бацькоў не выбіраюць", — прыгадваю словы прафесара А.Мальдзіса. З гэтым і жыву. Хоць часам ой як хочацца выбраць!..

•

Мая бабуля, бацькава маці Вера Міхайлаўна Мятліцкая была палескаю прыгажуняй: чорныя, як смоль, валасы, агністыя вочы. Многія, жартуючы, пыталіся ў яе, ці не ад цыганоў або габрэяў яна паходзіць. Бабуля ўсміхалася, адмоўчвалася. Але мы ведалі, што нейкі Міша жыў з яе мацерай Надзяй, а потым з'ехаў. Надзя была настаўніцай. У 1912 годзе яна магла напаткаць на самай справе не Мішу, а Мойшу. Бо чаму іначай Сачанкі дужа ж здольныя да навукаў?..

•

Бацька заўсёды казаў: "Глядзі не на неба, а на зямлю", — гэтак мудра і слушна. Мо таму і пакутую, што часцей прыцягваюць усё ж аблокі?

•

Ён з'яўляўся стрыжнем нашага бытавання, цэнтрам нашага Сусвету. Не стала яго — не стала і нічога вакол нас. Рассыпаліся, разгубіліся, забедавалі.

•

Некалі я любіла чытаць Фрэйда. Там апісваецца многа выпадкаў развіцця комплексу бацькі ў дзяўчат. Падсвядома я ўвесь час шукаю чалавека, які замяніў бы мне бацьку. Аднак разумею: такога я не знайду, не сустрэну...

•

У маладосці ён таксама пісаў вершы. Цікава было б паглядзець на тых, каму яны прысвячаліся, — маладых, чароўных. А потым, з узростам, паэта паглынула проза. На мой погляд — сумнавата.

•

Вакол яго пастаянна круцілася шмат людзей. З рознымі перакананнямі, стылямі жыцця. Прыцягнутыя багаццем асобы, не адразу разумелі сваю ролю як матэрыялу для напісання новых твораў.

•

Калі бывае цяжка, успамінаю бацькава апавяданне "Белая мыш". Ну няўжо і я (не дай Бог), дзеля таго, каб пагладзець у вочы каханага, павінна піць да "зялёных чорцікаў"? Тады з'явіцца з туману яго постаць, і мне стане добра-добра... Дык вось ад гэтага мяне перасцярог мой бацька.

•

Я.Лецка са здзіўленнем адзначае: "Ён быў хітры, а ты такая прастадушная..." Дзіўлюся і я — хіба, як кажуць, можа далёка ўпасці яблык ад яблыні? Не думаю.

•

Ён умеў смяшыць, весяліць. Вельмі добра памятаю гэтыя ягоныя — як яны цяпер называюцца — "прыколы". Улюбёным бацькавым выслоўем было: "Павінна ж быць і ў зайца радасць перад халоднаю зімой". Гэта гаварылася на ўздыме, калі шанцавала. Адваротны настрой суправаджаўся ўздыхам і вершыкам: "Поэт горбат, стихи его горбаты... Кто виноват? Евреи виноваты..."

•

Любоў да прыроды вызначалася ў яго нейкай практычнай канкрэтнасцю. Пойдзе ў лес — назбірае грыбоў, паедзе на лецішча — старанна давядзе ўсё да ладу. О, на пустое марнаванне часу ён быў не здатны! (У адрозненне ад мяне, напрыклад).

•

Шмат вандраваў, падарожнічаў. Заставаўся заўсёды неспакойным, непаседлівым. Нават тэлевізійныя каналы пераключаў да бясконцасці: на адным жа адно паказваюць, а на другім — іншае. Гэты непакой і цягнуў яго, думаецца, у далёкія замежныя паездкі. Там яму было гэтак жа няўтульна — хацелася як найхутчэй вярнуцца дахаты...

•

Прыгатаваннем ежы ён не займаўся. Ля пліты ў адзіноце я яго сабе не ўяўляю. Нават суп разагравала яму звычайна каторая з нас (а нас у яго было тры). Але гаспадаром дома быў менавіта ён: зарабляў грошы, размяркоўваў іх, закупляў самае неабходнае. Дробязямі займаліся мы, ад вырашэння стратэгічных пытанняў, дзякуй Богу, ён нас вызваляў. Цяпер жа мы знаходзімся пад цяжарам і тактыкі, і стратэгіі... Ох, і цяжкая ты, шапка Манамаха!

•

Не было выпадку, каб бацька заначаваў дзенебудзь, акрамя нашай утульнай сямейнай хаты. Разам мы заўсёды праводзілі адпачынак, таямніц ніхто і ніколі ні ад каго не меў. Тады, калі ён на працы памёр і ягонае цела забралі ў морг — гэта, мусіць, была яго першая ноч не дома. Вось так ён ад нас пайшоў...

•

Апошняя бацькава кампанія гасцявала ў нас тады, калі яго хавалі. Сяброўскай гаманы наша кватэра болей не чула. Так і жывём — сярод высачэзных паліц з назбіранымі ім кніжкамі, быццам у сасновым лесе ці сярод арганных труб касцёла. Жывём абсалютна па-іншаму. Ды толькі беражом памяць — адзінае, што нам цяпер засталося.

ПАЭЗІЯ

Усевалад ГАРАЧКА



## *Ты і тубылкі*

*Мроілася:*
*Усе вакол*
*Загарэлыя,*
*Голыя,*
*А ты —*
*У сіняй сукенцы.*
*Лета.*
*Агонь.*
*А ты —*
*Мая вада.*

•

*Пад ліпеньскім небам —*
*Жытнёвае поле:*
*І творца, і сейбіт*
*Саступілі час мастаку.*

•

*Святлее парк.*
*Жаўцее,*
*Ападае лісце.*
*Зноў стане лёгка*
*А нядаўна,*
*Здавалася,*
*Святлей за неба*
*Маладая зеляніна.*

•

*Нібыта недзе далёка*
*Гучыць дудачка.*
*І я,*
*Зачараваны яе музыкай,*
*Іду, іду*
*І прыходжу ў восень.*

## *Кветкі падбелу*

*Першыя*
*на голай зямлі,*
*як выгнаннікі з раю.*
*Яны яшчэ помняць,*
*што было т а м.*

•

*Я думаў, што каханне*
*дае крылы,*
*Але крылы яго —*
*свінцовыя.*
*Адно толькі радуе:*
*Не загіну, як Ікар, ад сонца.*

## *Паэзія*

*Нібыта прыйшла вясна,*
*Але таксама — са снегу,*
*І ёй таксама растаць.*

•

*Пафарбавалі ў зялёны,*
*Крыху памазалі крэйдай,*
*І назвалі:*
*Вясна.*

•

*Ты, дзяўчыначка, яму не вер:*
*Ён паэт.*
*І не спакусіць, нават,*
*Ён цябе хоча —*
*Горш:*
*Ён душу тваю перакоўвае ў вершы.*

•

*Вы пакінулі вёску,*
*Але вёска не пакінула вас.*

*За вамі, —*
*Нібыта пракосы,*
*Доўгія-доўгія вершы:*
*Страфа да страфы.*

*Вы косіце,*
*А недзе далёка гучыць песня.*
*І ўсе вы чуеце яе:*
*Толькі адну.*

•

*Цяпер я стаў абачлівым,*
*Мудрым,*
*І з лёгкасцю абыходжу ямы,*
*Поўныя вершаў.*

# Старонкі ўспамінаў

Максім ЛУЖАНІН

## КОЛАС І КУПАЛА НА АСІНБУДЗЕ

Як толькі вяртаешся памяццю ў маладосць, перад вачыма нязменна ўзнікае рычаг лакаматыва. Гудок, пачатковы, павольны, рух рычага, яшчэ гудок, паравоз уздыхае, ахінаецца парай, і ты ў дарозе.

Моладзь, мае літаратурныя аднагодкі, пільна сачылі за працай на новабудоўлях рэспублікі. Гэта не магло не цікавіць і людзей старэйшага веку з усенародна ўшанаванымі імёнамі і кнігамі.

...Яны прыйшлі ў Дом пісьменніка, які змяшчаўся насупраць даўно знікшага кінатэатрыка "Спартак". Гэты дом быў прытулак для ўсіх, што існавалі ў 30-я гады, літаратурных арганізацый. Народныя паэты настойліва абвясцілі: "Хочам ехаць на Асінбуд!" Туды, на будаўніцтва першай у рэспубліцы ГРЭС збіралася пісьменніцкая група з маладых. І наш кіраўнік, як і ўсе мы, моцна такі сумеўся: як быць? Гэта ж не хто-небудзь, а самі Янка Купала і Якуб Колас, з кім мы віталіся нясмела, на спаважнай адлегласці.

А яны мякка пакеплівалі, казалі: бярыце, маўляў, і на нас білеты, мы ўсё выдужаем, — такім чынам як бы скарачалася адлегласць паміж імі і намі, блазнотай.

І паехалі, начавалі ў нейкім не дужа прыдатным для адпачынку вагоне і раздзялілі з намі чарку, падмацаваўшы наша няхітрае халасцяцкае ежыва сваім хатнім прыпасам.

На Асінстане — вызваленыя ад хмызнякоў тарфянікі, недалёка і Арэхаўскае возера — ёсць дзе разгуляцца ветру. Холадна, да таго ж яшчэ не ўпыняецца і нудны пранізлівы дождж.

Нашы старэйшыны, аднак, не заўважаюць гэтага і бадзёра крочаць па раскіслых сцежках. Галоўны корпус станцыі бадай што пры самым возеры. Да яго цягнуцца рэйкі вузкакалейкі даўжынёю 48 кіламетраў. Крыху вышэй расце рабочы пасёлак. Чатыры трохпавярховыя дамы выстраіліся ўздоўж дарогі, за імі дамы, пабудаваныя ў другую чаргу, ёсць асабнякі на 2 - 3 сям'і. А наўкол пасёлка — малады лес: бяроза, сасна, асіна.

Абапіраючыся на кій, Янка Купала слухае растлумачэнні. Ён і тут, і як бы адсутнічае, праводзіць вачыма слупы электраперадачы, ваганеткі, якія спяшаюцца па торф, не мінае позіркам канячку, што бяжыць немаведама адкуль, каля самага лесу.

Пад канец агляду станцыі і абходу даволі вялікай тэрыторыі вакол нас назбіраецца шмат людзей, будаўнікоў і рабочых. Нашы старэйшыя спадарожнікі прыслухоўваюцца да кожнага іхняга слова, углядаюцца ў кожнае аблічча. Вось якія людзі выраслі з колішніх мікалаеўцаў і лагойцаў. Пра іх думалася і марылася маладым песнярам беларускага народа, складаючы першыя радкі аб лепшай долі беларускага чалавека.

Зараз народныя паэты па-гаспадарску распытваюць: а як жытло, забеспячэнне, спецвопратка. Адразу ж намацваюць: якія патрэбы трывожаць людзей, адказваюць на пытанні. Купэ Івана Дамінікавіча і Канстанціна Міхайлавіча паўнюткае.

Відаць, усё гэта няпраўда, што патрэбна асаблівае ўмельства знаходзіць ключы да чалавечага сэрца. Проста прымай клопат другога сэрца, і яно само ўдзячна адгукнецца табе. Так і адбываецца зараз у сценах выпадковага мулкага вагончыка. Праўда, напытаўшы некалькі чалавек з блізкіх да тагачаснай мяжы вёсак, Якуб Колас крыху адасабняецца ад агульнай гаворкі. Распытвае, ці не чулі, як жывуць там, "за мяжой", ягоныя сваякі.

Гадзіны праз дзве нашы госці адвітваюцца, запрашаюць паглядзець, як жывецца ім у пасёлку.

— З газет гэтага і за год не вычытаеш, — гаварыў Янка Купала, калі мы пачалі дзяліцца ўражаннямі ад убачанага і пачутага. — Я з вамі, хлопцы, яшчэ куды-небудзь паеду.

— Дзе ўжо нам, Янка, цягацца з імі, — спагадліва ўсміхаецца Колас. І расказвае, як маладая аўдыторыя шумна сустракала выступленні маладых літаратараў.

— Вось я і сказаў тады аднаму паэту: а што, браток, тут, відаць, глядзяць не на твор, а на твар.

Ну, вядома, шмат чаго з нашага паспешлівага творыва і не заслугоўвала іншай формы ацэнкі, чым някрыўдны, здавалася б, Коласаў жарт. Тым не менш гэта абавязвала падумаць і пра адказнасць за пачатую справу.

Колас прыязджаў на Асінбуд некалькі разоў, тады ў рэспубліканскіх газетах з'яўляліся цікавыя нарысы, матэрыялы паездак пазначыліся і ў яго апавяданнях.

Купала з'ездзіў на Мар'інскія балоты, гэта не прайшло безудзельна паўз ягоную душу і сышло на паперу.

Асінаўская станцыя з яе сціплымі трыма тысячамі кілават здавалася нам тады электрычным цудам. Яна вартая павагі, гэтая першая энергетычная кропка на энергетычнай карце рэспублікі. Там зараз свеціць палескі горад Светлагорск, ён жывіцца ад Васілевіцкай станцыі, якая амаль у дзесяць разоў перавышае магчымасці свае далёкае прабабкі.

Мы вярталіся ў Мінск падужэўшыя. Здаецца, і цяпер бачу вочы і чую голас Зіны Бандарынай, Тодара Кляшторнага, Анатоля Вольнага. Рэшты таварышаў не называю, мірсцяцца як праз туман аблічча Міхася Зарэцкага, Васіля Каваля. І агартае смутак: так дачасна і трагічна іх адабралі ў жыцця бязлітасныя нелюдзі.

## У МАГІЛЁВЕ НА ШОЎКАВАЙ

Я ўдзячны загінуўшым сябрам за тую светлую сумесную дарогу. Правады Асінаўскай павялі мяне ў Магілёў, на фабрыку штучнага валакна, яе любоўна называлі Шоўкавай. Вельмі ж прыемна было беларускаму сэрцу пасля палатна, шарачкаў і іншай вытворчасці з-пад кроснаў дакрануцца да прыгожай, лёгкай і бліскучай тканіны. Шоўк! Зроблены сваімі рукамі, з свайго дрэва. Гэта падымала нас не толькі ў сваіх вачах, а і перад суседзямі.

У Магілёве не было ні выдатных будынкаў, ні шырокіх праспектаў. Кожная нядзеля чула перамовы манастырскіх і саборных званоў. На недалёкім ад гасцінцы пляцы тлуміліся рамізнікі, якія вазілі на далекаваты вакзал. "Для пэўнасці" гаварылі яны, даючы будучым пасажырам грошы, "задатак", маўляў, прыеду ў часе, не спозніішся на цягнік.

Больш за месяц я прыходзіў на Шоўкавую на пачатак змены і адыходзіў з заканчэннем работы. Праробляў там адзін і той жа маршрут: ад каўшоў з драўніннай цэлюлозай, якая, перацярпеўшы пераўтварэнне ў прадзіўную рошчыну, ідзе ў помпу, адтуль наганяецца ў фільеру і выбягае з яе ўжо не вадкасцю, а мяккай ніткай сырога шоўку.

Гэты цудператварэння рэчыва, любаванне ім, не зморвае, — кожны раз прыкмячалася нешта новае. Усе людзі на шляху стварэння шоўкавай ніткі, ад падсобнага рабочага да пакавальшчыцы маткоў у цэнтрыфугу для прасушкі, сталі маімі добрымі знаёмымі. Шмат з кім можна было перакінуцца словам не толькі пра работу, а і пра тое, што робіцца ў доме: халасты ці жанаты, колькі маеш дзяцей, што яны parабляюць — вучацца ці на сваім хлебе. Фабрычныя інжынеры за куфлем піва пасмейваліся, прапанавалі пайсці ў цэх на зарплату. Аднойчы нехта з іх папрасіў мяне правесці па фабрыцы экскурсію. У групе экскурсантаў былі пісьменнікі, яны прыехалі ў тэатр на прэм'еру і не маглі не зазірнуць на Шоўкавую. Усе мае растлумачэнні былі прыняты з увагаю прыезджымі, без удакладненняў з боку прысутнага інжынера. Аднак пры з'яўленні ніткі з драўніннага раствору, які толькі што быў паўметровай таўшчыні бервяном, адзін з прыезджых вастраслоўаў, здаецца, Васіль Сташэўскі, пакпіў: "А ці не выцягнуў ты, браток, нітачку з кішэні?" Недалёка ад нас працаваў майстар, ён падтрымаў мой гонар, растлумачыўшы больш дакладна, як адбываецца ператварэнне драўніны ў шоўк.

## УСПАМІНАЕ ДЗЯДЗЬКА ЯКУБ

Вунь, колькі ўсяго ўсякага наўспаміналася. А ўсё праз Коласаву заўвагу: чалавека стварае праца. Скіравана яна была на аднаго паэта, які пажаліўся, што гаспадыня дома, дзе ён наймаў пакойчык, старая, нічога не ўздужае і просіць яго калоць дровы.

— Уяўляеце сабе, што значыць накалоць дроў на дзве печы — грубку і кухонную! — засмучаўся паэт, мой аднагодак.

— А ты, браток, калі-небудзь, вольным адвячоркам, — сказаў Колас, — падхваціся ды пакалі ўсе паляныкі, што ёсць у хлеўчуку. Тады доўга не будзеш мець ніякага клопату. Я заўсёды так раблю: наколваю цэлы касцёр дроў. На ўсю зіму...

Пасмяяліся. Ленаваты наш таварыш крыху зніякавеў, а ў кожнага з нас варухнулася ў грудзях нешта накшталт папярэджання дзядзькі Якуба: "А ці не замнога вы гуляеце, хлопцы?"

●

Пра Коласа не ўсё надрукаваў, што ведаю. Разбіраў пуды сваіх чарнавікоў і — знаходка сярод выпадковага папяровага рыззя. Некалькі аркушыкаў, спісаных з абодвух бакоў паводле майго прызвычаення: пададзены дакладна словы Твардоўскага і Коласа.

Калі Твардоўскі гасцяваў у Коласа пасля першага пасляваеннага з'езда пісьменнікаў, чыталі вершы. Пачалося так. Колас сказаў, што днямі напісаў верш. Усе прысутныя папрасілі: "Пачытайце!" А Твардоўскі заўважыў:

— Вам, Канстанцін Міхайлавіч, не дадзена права нічога трымаць пры сабе. А мы, спадзяюся, не толькі госці.

Колас пасміхнуўся, схадзіў па партфель у прыхожай, дастаў аркуш без памарак.

Пасля чытання Твардоўскі падняў чарку:

— Паклон ад перакладчыка. Не ў часопіс прашу, надрукуем раней у добрым месцы. А мне — прыбытак: аўтограф застанецца.

Колас не дае нечаканаму перакладчыку сесці.

— Цяпер — вы!

Твардоўскі даволі шмат чытаў з "Сельскай хронікі", пра дзеда Данілу, печніка Івушку.

Чытаюць Андрэй Малышка, Аркадзь Куляшоў. Падыходзіць мая чарга, на памяць я чытаць не адважваюся, прашу Данілу даць "Звязду", там перад з'ездам друкаваўся ўрывак з паэмы "Кладкі Градоўскага". Напісанае падабалася Коласу і, вядома, мне — як усё гарачае, з-пад пяра. Паслухаўшы, Твардоўскі даволі змрочна спытаў:

— Скажыце, а з чаго пачалося і як далей пойдзе?

Маё сэрца ўмлела, ведаў, наколькі Аляксандр Трыфанавіч быў просты і рэзкі: у вочы ўсемагутнаму тады П.Броўку выказваўся нестаноўча пра ягоны "Ясны Кут". Тлумачу: у мяне была гісторыя, чутая ад М.Пакроўскага, Героя Савецкага Саюза. Як ён вырываўся з нямецкага акружэння. Нагледзелі ў лесе ладную балоціну, абкружаную ржавай вадой, намасцілі туды жэрдак і дрэў, і па іх атрад перайшоў на сушэйшую выспу. Там і перабылі найбольш цяжкі час. Немцы не здагадаліся пра падводныя кладкі, у балота забаяліся лезці, а атрад тым часам знайшоў бяспечнае месца, выйшаў да сваіх.

Малышка паціснуў руку, папрасіў даць яму газету, адкуль чыталася. Куляшоў гаварыў нешта не зусім выразнае. Твардоўскі маўчыць, потым звяртаецца да Канстанціна Міхайлавіча:

— У вас дом вялікі. Дык вось прымкніце дзе-небудзь гэтага мужчыну, — гэта пра мяне. — І цераз фортку давайце снедаць і курыць, пакуль не дакончыць. І ні кроку — да заканчэння рэчы. А калі закончыць, па-мойму, можна будзе чарку даць.

Усе пасміхаюцца, Колас рагоча, віноўнік прызначанага Твардоўскім хатняга рэжыму вырастае ў сваіх вачах.

Пазней паэма была скончана, на жаль, не на такім узроўні, на які, мусіць, спадзяваўся Твардоўскі, прапануючы ўстанавіць нагляд за маім пісаннем.

●

Канстанцін Міхайлавіч жаліцца на сваю памяць.

— На Куршчыне тры вёскі было, я туды часта заходзіў. А назвы пазабываў. Гочава, Бучава, а як трэцюю звалі, забі — не помню. Стрыгосла, здаецца. Зірнуўшы, што я збіраюся закурыць, тут жа ўспамінае пра далёкія дні маленства:

— Дзядзька Антось быў заядлы курэц. Сам саджаў і даглядаў тытунь. Лісце зложыць у гаршчок, засыпле попелам і закапае на колькі год у зямлю.

Папяросы вярцеў вялізныя, адною накурвалася, бывала, на начлезе чалавек дзесяць дарослых. А малыя пастушкі — смех адзін. Курыць хочацца, а папрасіць не асмеліцца. Дык каторы разоў пяць падбяжыць і паздароўкаецца.

— Здароў, дзядзька!

Дзядзька ведае, чаго ад яго хочуць, ні слова не адказвае, пыхне пару разоў, каб раскурыць лепш, і ўстаўляе папяросу падлетку ў зубы. Той як пацягне, — вочы зробяцца шкляныя, твар ззелянее і — брык на зямлю. З паўгадзіны ляжыць, пакуль ачухаецца.

Вось гэта тытунь быў! Можа, ад яго ў дзядзькі Антося недалягала ў вусе.

●

Аднойчы, зноў жалячыся на памяць, Канстанцін Міхайлавіч успамянуў пра Купалу.

— Сымона Баранавых ведаў? — нібыта без сувязі з размовай, пытаецца ён і напамінае: — Таленавіты празаік быў. Моцна Янку слугаваў. Да Янкі душою прыкіпеў. У вас не гаварылі так?

Колас на хвіліну змаўкае. Яшчэ не ўсё, відаць, успамянулася пра пераржытае разам з сябрам. Нават у лазню Паплаўскага насупраць купалаўскага дома разам хадзілі. Гэта прыкмеціла вострае вока Крапівы. Колас успамінае тыя радкі і ўздыхае:

— Няма, няма ўжо абодвух.

Кажу, што добра помню Сымона, чалавека вельмі шчырае душы. Не было, мусіць, нікога з нашага асяроддзя, каму б ён не дапамог, нават мы з жонкаю праз яго купілі пакойчык у цэнтры, на Ленінскай...

— Потым, — перапыняе Канстанцін Міхайлавіч, — падзьмула на яго ветрам Купалавай душы. Прыкіпеў да яе. Хлопцы падсмейваліся, што Сымон для Янкі на ўсё гатоў, а калі таму нічога не трэба, сядзіць і глядзіць, ці не вылеціць слоўка якое. Вось і заспявалася песня "Як на свет радзіўся Янка". Удалая песня, жыве да гэтага часу.

— Помніш, як ты дапамагаў мне і Янку нажы выбіраць? Мы тады ў Маскве каля Нова-Дзявочага манастыра спыняліся. Дык калі ты пайшоў, Янка кажа: "А мы з табой нават чаркай не падмацавалі хлопца". І раніцай тое самае ад яго чуў. Купала яшчэ некалькі дзён заставаўся ў Маскве і меўся цябе адшукаць.

Я кажу, што мы бачыліся з ім, я быў у гасцініцы і праводзіў Купалу на вакзал.

— Потым ён дужа самалёты ўпадабаў, — перапыняе Канстанцін Міхайлавіч, — я гэтай прыхільнасці, праўду кажучы, не падзяляю. А вось маладзец, — ад свайго намеру не адступаўся. І заўсёды рабіў так. Я ўжо казаў табе пра гэта.

— Помню, дзядзька Якуб...

— Ну вось, толькі тады гаворачы, я, мусіць, перабраў крыху. Наконт прыналежнасці да партыі. Ты ўяўляеш сабе Пушкіна ў партыі? — Колас пасміхаецца.

— А чаму вы згадалі пра Пушкіна і партыю?

— Пушкін казаў цару, што каб быў у Пецярбурзе, выйшаў бы разам з дзекабрыстамі... Але гэта іншы выпадак. Камуністы не бываюць аднолькавыя. Вось да мяне нядаўна два цёзкі заходзілі. Нечага хочуць, а не гавораць. Мусіць, баяліся, што ты насупраць імі жаданага будзеш. Дык пачалі вярзці, быццам ты мне слугуеш, як некалі Сымон Баранавых Янку, а спадцішка маёй рукой водзіш. А я сказаў: "Мае рукі слабнуць, няхай водзіць". Пагля́дзіш, яны будуць цябе на свой бок перахіляць, каб слова ў іх карысць закінуў. Раскажаш потым, угадаў я ці не.

— Было ўжо такое, дзядзька Якуб, угадалі.

— А чаму ж ты маўчаў? Я ўзяў ды закінуў слова за іх, а лепш было б устрымацца. Ну, няхай. У мяне розныя перасцярогі наконт цябе былі: "Ці на вас не патыхае з Лужаніна нацыянальная настальгія?" Гэтак сам Зімянін казаў. Відаць, думаў, што ты ў нечым быў замешаны. Ды я пасмяяўся і кажу: "Лужанін большы католік, чым папа рымскі". Тады і ён засмяяўся.

Колас зноў памаўчаў.

— Каб да такой гаворкі больш не вяртацца, скажу: быў раз на цябе ў крыўдзе.

"І нічым не паказаў!" — мільгае збянтэжаная думка. І ўголас:

— А можа, і цяпер што вядзецца, дзядзька Якуб?

— Гэта самы пачатак нашага знаёмства. Прыехаў я тады з Масквы, мы там крыху пазнаёміліся, помніш, падвячоркавалі разам. Глянуў на сваю бязладную гаспадарку, пачаткі вершаў, раскіданыя паперы і сумна стала: як бы гэта да ладу давесці. І ўспомніў цябе. Гэты — паможа. Папытаў у Данілы, той таксама быў, на маю думку, добра адгукнуўся. Запраглі "кадэціка", укінулі ў кошык таго-сяго, як і належыць, едучы ў "сваты". А ты, быццам натурлівая маладая, амаль з парога, не паспелі і па чарцы лыкнуць, і абвяшчаеш: "Не магу, маўляў, шаноўныя, адразу адказаць. Падумаю крыху". Тут у мяне ў грудзях засмылела: я ж цябе не гной вазіць запрашаю... І так гаркавата было да твайго званка са згодай. Праўда, я яшчэ ў людзей пытаўся, і благога не пачуў...

— І я ж тое самае рабіў, раіўся, ісці да вас ці не. Не кожны раіў.

— Слугаваннем палохалі і сам таго баяўся? — Канстанцін Міхайлавіч глядзіць проста ў вочы.

— І таго, і таго было, — даводзіцца прызнавацца.

— Ну, давай дамовімся — калі здарыцца што якое, дык казаць адзін аднаму ў вочы.

●

— Талент, — разважае Канстацін Міхайлавіч, — калі ён толькі закладзены ў чалавека, можа выяўляцца з нечаканага боку,

*(Заканчэнне на стар. 14 — 15)*

Што ж датычыць Дарыюша Фікуса, галоўнага рэдактара газеты "Рэчпаспалітая", аўтара кнігі пра Лупашку, то гэта вядомы журналіст. Ён і сапраўды ў 1989 г. выдаў у Парыжы кнігу "Псеўданім "Лупашка". Пры аказіі магу нагадаць, што ў 1962—1982 гадах ён быў галоўным рэдактарам асабліва папулярнага тыднёвіка "Палітыка". Але пісаць ён мог толькі тое, што чуў ад людзей або знаходзіў у чужых успамінах. А я хачу спаслацца на публікацыю вядомага пісьменніка і гісторыка Паўла Ясеніцы (яго прозвішча Бейнар Леон Лех). Ён дастаткова добра ведаў Лупашку, у якога быў нейкі час ад'ютантам і затым намеснікам. Ён меў надзейную магчымасць карыстацца не чуткамі або падабранымі паводле нейкіх густаў інфармацыямі, а ўласнымі назіраннямі. Будучы чалавекам сумленным, ён не хавае, не затойвае і такіх звестак пра свайго колішняга начальніка: "Вельмі няшчадны, а ў час гневу схільны да крайняй жорсткасці ("okrucienstwa"). Камандзір, бясспрэчна, здольны. (...). У больш позні перыяд — наколькі мне вядома — дзейнасць яго страціла пачуццё меры. (...). Пад канец свайго побыту ў лесе я выразна адчуваў страту маральных тармазоў". Аўтар прыводзіць прыклад таго, што чалавека маглі разарваць коньмі, або паведамляе пра садызм у адносінах да двух савецкіх салдат, называючы такія паводзіны сведчаннем дэгенерацыі ўдзельнікаў падполля. ("Абаянне Лупашкі", "Polityka", 1990, 2.VI., №22). Вядома, у артыкуле паведамляецца і пра тое, як падуладныя верылі свайму камандзіру і любілі яго. У час распраў над беларусамі Ясеніцы ўжо не было ў атрадзе.

Дык ёсць тут пра што разважаць ці не? Ці ёсць магчымасць прызнаваць праўду і гаварыць пра яе адкрыта? А яшчэ — ці было б жаданне? У Польшчы пішуць пра тыя падзеі, а мы тут не можам? Праўду як быццам усе любяць. Але як часта хаваюцца ад яе, кіруючыся самымі разнастайнымі меркаваннямі. І ці можна заступацца за беларусаў? За тых, пра якіх праўду напісалі толькі ў часы сённяшняй дэмакратычнай Польшчы?

Не магу абмінуць яшчэ адзін сказ з Вашага адказу, Сямён Уладзіміравіч. Вы пішаце: "Працягвае загадваць беларускай кафедрай у Варшаўскім універсітэце Алесь Барскі, пра дзейнасць якога на Беларусі добра ведаюць. Якая тут журналісцкая праблема?" А тое, што ён стаяў ля вытокаў Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў (можаце прачытаць пра гэта ў маіх "пажаданнях"), — не павінна цікавіць беларускага чытача? І тое, што ён, жывучы ў Варшаве, з'яўляўся адным з арганізатараў шырокамаштабных юбілейных мерапрыемстваў, прысвечаных Янку Купалу і Якубу Коласу ў 1982 годзе, а таксама Францішку Скарыне ў 1990 годзе? А яшчэ ж магу нагадаць, што ён — не дзе-небудзь, а ў Варшаве — публікуе шматлікія працы, прысвечаныя гісторыі беларускай культуры і літаратуры, перакладае творы беларускіх паэтаў на польскую мову і робіць іх даступнымі чытачам сваёй краіны. Інакш кажучы, актыўна садзейнічае беларуска-польскаму збліжэнню і ўзаемаразуменню ў галіне культуры. А ці такая справа не можа не цікавіць і журналіста і чытача? А яшчэ ж Аляксандр Баршчэўскі надзвычай актыўны арганізатар і непасрэдны ўдзельнік шматлікіх міжнародных навуковых канферэнцый, прысвечаных узаемасувязям літаратур і культур Польшчы, Беларусі, Расіі. Па звестках ад 15 красавіка 1993 года, ён выступаў з дакладамі на 38 міжнародных каферэнцыях. І пасля гэтага ён кожны год неаднаразова наведвае Беларусь у якасці ўдзельніка міжнародных навуковых канферэнцый і сімпозіумаў. Пра беларускую літаратуру і фальклор ён чытаў лекцыі ў Нью-Йорку, Лондане, а таксама ў беларускіх універсітэтах у Мінску, Гародні, Віцебску, Полацку, Гомелі. Да таго ж на працягу многіх гадоў чытае лекцыі пра беларускую літаратуру і фальклор у Люблінскім універсітэце. Ці выпадкова ён узнагароджаны медалём Францішка Скарыны (здаецца, першы з замежных грамадзян), яму ж было прысвоена званне ганаровага доктара Беларускага дзяржаўнага універсітэта. А яшчэ ж можна было б сказаць пра яго ўдзел у дзейнасці Беларускага грамадска-культурнага таварыства, Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, у Камітэце славяназнаўства Польскай акадэміі навук і ў іншых грамадска-навуковых асацыяцыях, якія маюць самае непасрэднае дачыненне да беларускай культуры, літаратуры, фальклору.

А можа, і сапраўды ўсё тое, што робіцца для прапаганды беларускай культуры і літаратуры за рубяжом, не мае для нас ніякага значэння і нікога не можа цікавіць? Інакш кажучы, не ўяўляе ніякай "журналісцкай праблемы"?

Думаецца, што нашага чытача не магла б не зацікавіць і надзвычай плённая дзейнасць прафесара універсітэта ў Ольштыне Базыля Белаказовіча, нястомнага даследчыка ўзаемасувязей славянскіх літаратур і культур. Тым больш, што набліжаецца яго 70-гадовы юбілей. Не пакрыўлю душою, калі скажу, што вельмі цікава беларускаму чытачу было б прачытаць хоць бы пра "Навейшую гісторыю Беларусі" Яўгена Міранавіча (Беласток, 1999). А чаму б не згадаць яшчэ кнігу Міколы Гайдука "Паратунак. Гістарычныя эсэ", апублікаваную мінскім выдавецтвам "Юнацтва" ў 1993 годзе. Там ёсць такія звесткі па нашай гісторыі, якія беларускімі даследчыкамі, нават больш славутымі, старанна абмінаюцца.

Вы, Сямён Уладзіміравіч, у свой час з'яўляліся даследчыкам гісторыі беларускай літаратуры. У Вас сёння ў Варшаве ёсць унікальныя магчымасці знаёміцца з тымі дакументамі і архіўнымі матэрыяламі, якія сталі недаступнымі нашым даследчыкам, нават найбольш зацікаўленым.

**Уладзімір КАЗБЯРУК**

---

дачу я набыў пры непасрэдным удзеле і заахвочванні Макаёнка: ён паказаў прыкрытыя лісцікам два баравічкі проста за агароджай свайго дома, а потым падшукаў і прадажны дом.

Кажу — сяброўства, не баючыся вымавіць гэтае слова: так яно і было. Чытаючы некаторых мемуарыстаў, можна падумаць, быццам нашы адносіны трымаліся на адной гульні ў карты. Так, гулялі, магчыма, шмат, але не цураліся такога праводжання часу і Крапіва, і Танк з Куляшовым, пазней далучыўся маладзейшы па ўзросце Макаёнак. Аднак прэферанс для нас не быў марнаваннем часу або жаданнем пабольш выйграць, гэта быў своеасаблівы спорт, дзе па чарзе трое іграюць супраць аднаго, прыдумваюць хітрыя хады і камбінацыі. Праўда, кожнага "новенькага", што прасіўся ў нашу кампанію, Макаёнак напаўпагрозліва папярэджваў: "Май на ўвазе, тут пакуль тысячу не прасадзіш, гуляць не навучышся".

Усё гэта — дарэчы. Хочацца дадаць некалькі рысаў да яго знадворнага і духоўнага аблічча. Да Макаёнка гарнула ўсё: абазнанасць, што робіцца ў свеце, у краіне, асабліва ў тагдышняй сельскай гаспадарцы, дакладней, безгаспадарчасці. Імпанавала яго бескампраміснасць — кожнаму ў вочы гаварылася чыстая праўда, далёка не заўсёды прыемная, умельства бачыць смешнае або нявартае ў, здавалася б, спаважным і сур'ёзным. Таго самага, прыкладна, ён вымагаў ад людзей — заўсёды гаварыць адкрыта.

Аднойчы мы вярталіся з горада. Прыдачны лясок здаўся вельмі прытульным і так зазываў у свой халадок, што мы з Андрэем вырашылі не перапыняць пачатай дарогаю размовы, а працягваць яе тут, балазе прыпасы былі.

Думалі мы пра адно — шкоднасць і недапушчальнасць усялякіх культаў і працавалі: ён над п'есай (у далейшым "Пагарэльцы"), я пісаў паэму ("Як нарадзіўся новы свет"). Пры ўсёй неадпаведнасці жанраў асноўная задача супадала: сатырычная падача пэўных падзей, з'яў, асоб. Андрэй, як высветлялася, бачыў усю канструкцыю твора, цяпер ішоў адбор: эпізод, няхай і смешны, напаўзаў на эпізод. І скарачаць шкада, і пакінуць нельга — замінае. П'еса пісалася кавалкамі: быў амаль гатоў пачатак, не хапала некалькіх сцэн у заканчэнні, ён ведаў, чаго не стае, аднак падганяў развіццё дзеі ў сярэдзіне. Андрэй разгарнуў тады перада мною шырокае відовішча: мастакоўскае вока ўжо бачыла ўсё цэласным.

Маёю рэччу Макаёнак зацікавіўся даўно. Неяк на праходцы я ўспамянуў некалькі строф:

***Прывычкі нашы, ах, прывычкі!***
***Вол прывыкае да ярма,***
***А распрагуць, яму нязвычна,***
***Здаецца, выпраглі дарма.***

Андрэй папрасіў паўтарыць. А потым пайшоў да мяне дамоў, захацеў паслухаць усё напісанае. Заўваг пасля чытання амаль не было, заключылі няпісаную дамову. Кожная новая паўсотня радкоў чытаецца першаму яму.

Калі на ўлонні прыроды я рабіў справаздачу, Макаёнак запрапанаваў:

— Давай навыперадкі!

Парагатаўшы, пагадзіліся, што прыспешваць пісання не варта. Андрэй управіўся раней і, каб абмінуць усялякія рагаткі і затрымкі ў ніжэйшых інстанцыях, падаўся на самы "верх": папрасіў пачытаць п'есу П.М.Машэрава. Не помню, колькі дзён ці тыдняў прайшло, але аднаго разу надвечар з'явіўся на маёй сядзібе. Сеў, падняў рукі, каб ашчаперыць галаву, але стрымаўся:

— У цябе ёсць што?

"Што" знайшлося, перакурыўшы, Макаёнак махнуў рукою:

— Быў... Усебаковая падтрымка, разуменне. Але...

Дзе быў, у каго, мне не трэба было тлумачыць. Падрабязнасцей гаворкі перадаваць не падручаюся, мінула блізка 30 гадоў. А цягнулася яна ў Машэрава некалькі гадзін, абодва бакі мелі свае думкі і доказы. Нарэшце, Машэраў падзякаваў за давер, маўляў, прыйшоў да яго першага, і закончыў коратка: да размоў аб пастаноўцы вернемся цераз пяць гадоў, зараз жа не варта, каб шмат вачэй чытала п'есу.

Пяць гадоў! Гэта было цяжкае выпрабаванне для творчага чалавека. Але Андрэй разумеў, што раіць і просіць чалавек лепш дасведчаны, які добра арыентаваўся ў курсе тагачаснай крамлёўскай палітыкі.

Гэта вестка аглушыла і мяне, не адразу зразумелася, што змусіла Пятра Міронавіча назваць такі тэрмін. Макаёнак сумленна дачакаўся гэтага тэрміну, нешта перапісваў, нешта змяняў, словам, рэч многа страціла ў глыбіні і вастрыні. Прыкладна тое ж адбылося і з маёй паэмай, спісажаная мноствам заўваг і купюр, яна пасля паправак і дапісак пабачыла свет раней за п'есу. Праўда, некаторыя раздзелы я мог апублікаваць аж у 90-х гадах.

Макаёнку заўсёды хацелася дапамагчы мне, прыцягнуць увагу іншых да мае работы. Помніцца, вяртаючыся з Масквы, здаецца пасля VI з'езда пісьменнікаў, я пачытаў яму ў купэ новы раздзел паэмы. Паслухаў:

— Трэба, каб гэта людзі чулі, — сказаў, выйшаў і вярнуўся з Васілём Быкавым:

— Давай сшытак!

Паўтарыць чытанне мне не дазволіў, чытаў Быкаву сам. Той, вельмі стрыманы чалавек, выслухаў, паківаў галавою:

— Трэба адзначыць! — пайшоў і прынёс з вагон-рэстарана пляшку віна.

...Яго аблічча і зараз у мяне перад вачыма: правільныя рысы твару, валявое падбародззе, высокае чало і чорным-чорная чупрына валасоў. Галоўнае ж, вочы: яны маглі радавацца і сердаваць, іскрыцца гневам і адарыць цеплынёю, а перш за ўсё, бачыць з першага позірку, што за чалавек трапіўся на дарозе.

---

# Прадзіва памяці, або Мой пысінскі талісман

Няўмольны кругабег часу кожнага з нас адносіць усё далей ад дзён маладосці, ад тадышніх знаёмстваў, сустрэч, спатканняў, уражанняў. Але ж здараецца нагода, і з далекаватай ужо і смугой гадоў ахінутай пражытасці выхапіцца раптам той ці іншы выпадак, тое ці іншае здарэнне, і згадаецца ўсё зноў ярка і выпукла, хвалююча і непаўторна. А паслужлівая памяць з кудзелі даўніны выцягвае нітку ўспамінаў усё больш актыўна і ахвотна. Так і не заўважыш, як гэта прадзіва ўсё больш навіваецца на віхлявае верацяно, каб таўсматым клубком застацца ў сённяшнім дні.

Прачытаў у першым вераснёўскім нумары "ЛіМа" нататку Віктара Арцем'ева "Абдзелены і як след не ацэнены" пра Аляксея Пысіна, які 20 гадоў таму пайшоў ад нас у лепшы свет. І нібыта пацягнуў за нітку таго бухматага клубка.

З Аляксеем Васільевічам мы не былі блізка знаёмы, сустракаліся колькі разоў у Мінску падчас яго наездаў у сталіцу па пісьменніцкіх справах. Але нататка ў "ЛіМе" як бы дымком маршанскай махоркі ахінула, выхапіла з памяці адзін даўні, яшчэ школьны эпізод.

1965 год. Я вучыўся тады ў 10 класе Сноўскай адзінаццацігодкі, што на Нясвіжчыне. А ў той школе быў выдатны, проста таленавіты настаўнік беларускай літаратуры і апантаны краязнаўца Іван Іосіфавіч Калоша, хай пухам будзе яму сходжаная пешкі і з'езджаная на веласіпедзе беларуская зямля. Гэта ён шмат каго, у тым ліку і мяне, далучыў да краязнаўства, улюбіў у наш беларускі край і ў нашу малую радзіму. Гэта Іван Іосіфавіч захапіў нас простым і несмяротным беларускім словам. Ён часта запрашаў у вясковую школу знаных літаратараў з Мінска. Помніцца, аднойчы ён і мяне зрабіў крытыкам, прапанаваўшы выступіць на агульнашкольнай сустрэчы з Іванам Новікавым і героямі ягонай кнігі "Дарогі скрыжаваліся ў Мінску". Не забываюцца і дагэтуль колькі маіх бяссонных начэй, аддадзеных напісанню крытычнага "трактата", і тое ўхвальна-падбадзёрваючае слова Івана Рыгоравіча, якое ён прамовіў у адказ на мой выступ.

Заахвоціў Іван Іосіфавіч Калоша і да напісання гісторыі роднай Нясвіжчыны. Шмат публікацый зрабіў я тады і пазней (ды і дагэтуль не адмовіўся ад падобнай дзейнасці) у раённым "Чырвоным сцягу", у рэспубліканскім друку. А вынікам нашых калектыўных напрацовак у гэтым напрамку і шматлікіх паходаў сталася запачатакаванне школьнага краязнаўчага музея, якім пасля доўга і вынікова апекаваўся наш, мой Настаўнік. Музей і дагэтуль існуе ў Сноўскай, ужо новай школе.

Было і яшчэ адно, святое, да чаго схіліў многіх з нас, вучняў-шасцідзесятнікаў, Іван Іосіфавіч. Ён далучыў нас да кнігі. Да мастацкай кнігі. Да беларускай кнігі. Я тады стаў адным з пастаянных наведнікаў нашай Сноўскай кнігарні, прадаўшчыца якой ці не спецыяльна для нас, выхаванцаў Калошы, рэгулярна здабывала недзе і прывозіла ў вёску самыя апошнія кніжныя навінкі.

З тае пары і дагэтуль у маёй бацькоўскай хаце ў Баярах захоўваецца ладная яшчэ бібліятэчка тадышніх набыткаў, прыдбаных у Снове і ў знакамітым "Кніжным свеце" Макаравых, сямейства апантаных кніжнікаў-прадаўцоў з Нясвіжа.

Развіў Іван Іосіфавіч Калоша і маю даўнавата асвоеную на той час звычку пісаць у газету, найперш раённую, рэцэнзіі, водгукі на кніжныя навінкі.

Менавіта з гэтымі дзвюма апошнімі акалічнасцямі і звязана мая згадка пра Аляксея Пысіна.

Акурат тады набыў я ў сноўскай кнігарні паэтычную кнігу Аляксея Васільевіча "Мае мерыдыяны". І зноў некалькі бяссонных начэй было аддадзена на яе чытанне-перачытванне. Здаралася, тое чытанне прыхваткамі доўжылася і на ўроках матэматыкі, фізікі, сваім захапленнем пысінскім словам падзяліўся з сябрамі. А пасля Іван Іосіфавіч прапанаваў выказаць свае ўражанні на ўроку літаратуры. Гэта падахвоціла даслаць водгук на кнігу ў рэдакцыю раённай газеты. Надрукавалі.

А далей ужо была мая самадзейнасць. А мо і жаданне фарсануць трохі перад сябрамі. Адным словам, выразаў я тую публікацыю з раёнкі, уклаў у канверт разам з кніжачкай "Мае мерыдыяны" свой ліст і накіраваў у Магілёў. А паколькі адраса не ведаў, то напісаў проста: Магілёў, Аляксею Пысіну.

Пасля доўга перажываў, ці дойдзе гэткае маё пасланне, а калі дойдзе, то ці захоча знаны паэт, заняты да таго ж руплівай журналісцкай працай у абласной газеце, ліставацца з нейкім невядомым вясковым школьнікам.

І якое ж было маё здзіўленне і невымоўная радасць, калі не менш здзіўленая паштарка прынесла ў мае Баяры важкі канверт з Магілёва і папрасіла распісацца, бо пісьмо было заказное. А на адыход цікаўна папыталася:

— А хто гэта — Аляксей Пысін? Мо родзіч твой?

Давялося скарыстаць усе свае дасведчанні і расказаць пра Пысіна тое, што я ведаў.

Калі паштарка задаволеная, здаецца, з таго, што я знаюся з такімі людзьмі, пайшла, я хуценька, але акуратна разрэзаў канверт. Там ляжаў ліст Аляксея Васільевіча і... дзве кніжачкі "Мае мерыдыяны". Адна была з надпісам паэта: "Анатолю Бутэвічу, з пажаданнем вялікай дарогі ў жыццё. А.Пысін. 5.VШ.1965 г. Магілёў".

Другая кніжка была чыстая. Я зразумеў, што Аляксей Васільевіч вярнуў і мой экземпляр. Мо каб я перадаў каму іншаму, што я ахвотна зрабіў.

У сваім лісце А.Пысін пісаў сваім выразным почыркам:

"Дзень добры, Анатоль!

Сёння вярнуўся з камандзіроўкі. Мяне чакала тваё пісьмо. Відаць, адказваю табе з нейкім спазненнем.

Дзякую за добрыя словы аб маёй кніжцы. Добра, што ў вашым сельскім магазіне прадаюць паэтычныя зборнікі: гэта не ўсюды робіцца. Ваш загадчык магазіна заслугоўвае пахвалы.

Якія ў мяне кніжкі? "Наш дзень", "Сіні ранак", "Сонечная паводка", "Мае мерыдыяны", а таксама кніжкі для дзяцей "Матылёчкі-матылі" і "Вясёлка над плесам" выдадзены ў Мінску выдавецтвам "Беларусь". Дзве кніжкі вершаў у перакладзе на рускую мову "Эхо" і "Миллион адресов" выйшлі ў маскоўскім выдавецтве "Советский писатель".

Я вельмі рад, што ў нас расце моладзь, якая не цураецца роднага матчынага слова, шануе і паважае яго. Хіба наша мова горш іншых? Ніколькі. Творчасць Купалы і Коласа, Кузьмы Чорнага і Янкі Брыля, Аркадзя Куляшова і Сцяпана Гаўрусёва — сведчанне гэтаму. А аповесці Васіля Быкава?

Жадаю табе, Анатоль, усяго найлепшага.

5.VI.1965 г" А.Пысін.

Вось такі ліст. Так няшмат і так даўно напісана, а як усё адно сёння. Тыя ж праблемы засталіся і з распаўсюджваннем беларускіх кніг, і з беларускай мовай.

Але тады я быў проста шчаслівы. Ад усведамлення паяднанасці нашай вёскі, нашай сельскай школы з вялікім светам літаратуры, ад такога шчодрага і шчырага ўчынку Аляксея Васільевіча. Неўзабаве пра ліст ведала ці не ўся школа. Яго прачыталі і патрымалі ў руках разам з надпісанай паэтам кнігай многія. Парадаваўся за маю смеласць і Іван Іосіфавіч Калоша, настаўнік маёй беларускасці і маёй дагэтулешняй захопленасці краязнаўствам і гісторыяй. А мо ў тым настаўніцкім спрыянні і тым першым ліставанні з сапраўдным паэтам схавана запачаткаванне маёй далучанасці да літаратуры, маёго сённяшняга ўваходжання ў беларускі Саюз пісьменнікаў?

Дзякуй, Аляксей Васільевіч, за Вашу зычлівасць, за Вашу ўвагу і павагу да сваіх чытачоў. Ці не з гэткай зацікаўленасці пачынаецца ў кожнага і няспынна бруіцца струмок адчування і ўсведамлення сваёй нацыянальнай адметнасці. Каб не перасох ён, гэты струмок, не пераставайце, калегі, дарыць радасць сваім чытачам, не абдзяляйце іх ні сваімі кнігамі, ні сустрэчамі, ні ліставаннем.

**Анатоль БУТЭВІЧ**

